9 верасня 2016 | № 34 (499)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Дык прачніся, народ, ад нядолі!»
стар. 11



# Зноў дваццаць пяць

## Уся палітызаваная краіна сачыла за лічбамі датэрміновага галасавання: ці паб'ем мы свае ж рэкорды



Сяргей ПУЛЬША

Ледзьве не з кожнага праса нас угаворвалі прагаласаваць датэрмінова. Лідзія Ярмошына запэўнівала: датэрміновае галасаванне — гэта сусветная практыка. Праўда, Лукашэнка сказаў, што датэрмінова галасаваць не пойдзе.

Сапраўды, датэрміновае галасаванне — гэта сусветная практыка. Аднак у свеце для таго, каб прагаласаваць датэрмінова, трэба мець сур'ёзныя падставы. У нас жа на гэтае галасаванне не толькі дапускаецца «і жук, і жаба». Кіраўнікі прадпрыемстваў і навучальных установаў улагоджваюць сваіх падначаленых галасаваць датэрмінова. А тым, хто не ўлагоджваецца, пагражаюць «наступствамі». Вось і з'яўляюцца датэрмінова на ўчастку ад чвэрці да трацiны выбаршчыкаў. Так, на парламенцкіх выбарах 2012 года датэрмінова прагаласавала каля 25% выбаршчыкаў, на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года — каля 36%.

Праваабаронцы безліч разоў казалі, што «датэрміновыя» галасы ніяк не абароненыя ад фальсіфікацый. Але галоўны тэхнічны арганізатар выбараў — ЦВК — ад гэтай практыкі адмаўляцца не збіраецца, нават насуперак настойлівым і неаднаразова выказаным рэкамендацыям АБСЕ па пераглядзе гэтай сістэмы (наракanні на датэрміновае галасаванне можна знайсці ў справаздачы АБСЕ аж 2001 года!). Больш за тое, паводле той жа Лідзіі Міхайлаўны, калі адмовіцца ад датэрміновага галасавання, то ў асноўны дзень можа прагаласаваць толькі 20% выбарцаў. Чаго яна, канешне ж, дапусціць не можа.

Словы пра 20 працэнтаў яўкі ў асноўны дзень выбараў — гэта зноў жа «сеанс чорнай магіі з яе выкрыццём». Па-першае, гэтая лічба паказвае, што падчас выбараў скарыстоўваецца той самы «адміністрацыйны рэсурс». Калі ў асноўны дзень галасавання на ўчасткі прыходзіць менш выбарцаў, чым прагаласавала датэрмінова, значыць, на датэрміновае галасаванне народ загналі пад прымусам. Ці «бізуном», ці «пернікам».

Па-другое, 20 працэнтаў выбаршчыкаў у асноўны дзень галасавання паказвае, што сама спадарыня Ярмошына не здольная арганізаваць выбары так, каб яны выклікалі цікавасць у насельніцтва, каб людзі прыходзілі на ўчасткі добраахвотна. Сапраўды, насельніцтва вельмі расчараванае працаю сваіх дэпутатаў. Лічаныя адзінкі здолеюць узгадаць, хто быў абраны дэпутатам на мінулую кадэнцыю заканадаўчага органа краіны. Яшчэ менш ведаюць, што гэты дэпутат зрабіў за чатыры гады свайго існавання ў парламенце.

Затое ўсё ведаюць, што яны зрабілі агулам: падатак на дармаедства, павышэнне пенсійнага ўзросту, дадатковы падатак на аўто, падаткі на вясельныя падарункі маладым і шмат чаго іншага.




**Народ вельмі расчараваны працаю сваіх дэпутатаў**

Па-трэцяе, «20 працэнтаў» — гэта і разуменне грамадзянамі таго, што вынікі выбараў прадвызначаны, а іх голас ні на што не ўплывае. І гэта таксама паказчык даверу да выбарчай сістэмы ў цэлым і ЦВК у прыватнасці.

Пра што яшчэ сведчаць гэтыя «20 працэнтаў»? Пра тое, што ўся ўлада на працягу доўгага часу была заточаная на тое, каб пазбавіць грамадзян цікавасці да выбараў. Няшмат хто проста ведае кандыдатаў, якія збіраюцца стаць дэпутатам па іх выбарчай акрузе. Для гэтага скарыстоўваюць шмат інструментаў. Найбольш яскравых і крэатыўных «выбіваюць» на этапе збору подпісаў. Пазбаўленне кандыдатаў дзяржаўнай падтрымкі на этапе выбарчай кампаніі таксама не дадае кандыдатам вядомасці — у іх няма грошай для друку сваіх улётак і праграм. Улады пастаянна ствараюць перашкоды ў правядзенні выбарчых сходаў і пікетаў, і толькі самыя апантаныя, якія разумеюць, як у Беларусі праводзіцца падлік галасоў, і што ім нічога не свеціць, робяць бачныя, яркія і крэатыўныя акцыі.

Можна было б плюнуць на ўсё, і сказаць, як у габрэйскім анекдоце: «Рабіце, што хочаце»! Аднак гэтая сітуацыя прыкрая тым, што ёсць у краіне Канстытуцыя. І, згодна Канстытуцыі, адзінай крыніцай улады ў краіне з'яўляецца народ. Калі ўлада робіць усё, каб народ зняверыўся ў выбарчай сістэме, каб яму было нецікава, хто, як і каго абірае, каб усе ведалі, што ад выбараў нічога не залежыць, і вынік выбараў прадвызначаны задоўга да дня галасавання... Тады гэтая ўлада проста пазбаўляецца легітымнасці і таго самага народнага даверу, на якім яна павінна грунтавацца. З усімі вынікаючымі наступствамі.

Напрыклад, наша ўлада ўжо колькі гадоў змагаецца з «ценявой эканомікай» і нясплатай падаткаў. Але праца «ў цэню» і няплата падаткаў зрабіліся звыклай з'явай у дзяржаве. Чаму? Сустрэчнае пытанне: а чаму чалавек павінен плаціць грошы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату, які ён не абіраў і які часцяком дзейнічае насуперак ягоным інтарэсам? Навошта яму фінансаваць дзяржаўныя інстытуты, якія «прызначаныя» без уліку яго інтарэсаў загадам зверху? Чаму дзяржава мае права скрасці ягоны голас, а ён не мае права вынесці з дзяржпрадпрыемства пачак паперы ці нейкі патрэбны ў гаспадарцы інструмент?

Як дзяржава да людзей — так і людзі да яе. І пачынаецца ўсё, насамрэч, з непавагі да выбаршчыка.

# Былыя палітвязні рыхтуюцца да акцыі «Вярні выбары»

**Былыя палітвязні і экс-кандыдаты ў прэзідэнты Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч 6 верасня падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 12 верасня акцыі на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.**

«У адпаведнасці з правам, гарантаваным артыкулам 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і падпісанымі нашай краінай міжнароднымі пагадненнямі, мы маем намер правесці 12 верасня 2016 года на Кастрычніцкай плошчы Мінска масавую акцыю з патрабаваннем сапраўдных выбараў замест выбарчых фарсаў, якія рэгулярна арганізуе правячы рэжым, — сказана ў заяўцы. — У Беларусі адсутнічае законна абраны парламент і, адпаведна, легітымная працэдура рэалізацыі канстытуцыйнага права на свабоду мітынгаў і дэманстрацый. Прапануем выканаць патрабаванні Канстытуцыі і забяспечыць бесперашкоднае правядзенне акцыі».

«Калі адзіная рэакцыя ў адказ на фальсіфікацыі і скрадзеную перамогу — толькі пакрыўджаныя заявы і скаргі заходнім партнёрам, то такія паводзіны нельга назваць годнымі, — заявіў раней Мікалай Статкевіч. — Чакаем усіх кандыдатаў, вынікі галасавання па якіх будуць сфальсіфікаваны, а таксама сябраў іх каманд. Абараніць свой гонар, а таксама гонар выбаршчыкаў, якія галасавалі за вас — ваш абавязак».

— Мяркую, пра акцыю насельніцтва праінфармавана, таму выбар за людзьмі, — распавёў палітык сайту palitviazni.info. — Арганізацыі, якія ўваходзяць у Беларускі нацыянальны кангрэс, гатовыя ўзяць удзел у акцыі. Праўда, мы са здзіўленнем пачулі заявы кіраўнікоў цэлага шэрагу дэмакратычных партый, якія заявілі пра свой нуўдзел. Я разумею іх матывы, ім — страшна. Але, спадзяюся, што шараговыя сябры іх партый усё-такі пераадолеюць страх і возьмуць удзел у мерапрыемстве.

— Акцыя запланавана на наступны дзень пасля выбараў. Гэта зроблена адмыслова?

— Так, як ужо казаў, каб сотні дэмакратычных актывістаў, якія бяруць удзел у выбарах, маглі далучыцца да нас. Таксама я думаю, што гэта абавязак соцень альтэрнатыўных кандыдатаў, якіх у чарговы раз выкарысталі ў якасці статыстаў, а галасы іх скралі. Яны таксама могуць сказаць сваё слова на акцыі, і мы прадаставім ім такую мажлівасць на наступны дзень пасля выбараў.

— Вы разлічваеце на масавасць акцыі?

— Я не займаюся прагнозамі.

**palitviazni.info**

# Міліцыя расшуквае Марыну Хоміч

**Людзі ў міліцэйскай форме абыходзяць кватэры суседзяў сваякоў, у якіх пэўны час жыла лідар Маладых хрысціянскіх дэмакратаў, прамоўца БХД па Кальварыйскай акрузе Марына Хоміч. Яны паказваюць яе фатаздымак, што дыскрэдытуе лідара МХД, нібы яна знаходзіцца ў вышуку.**

З чым звязаная такая цікаўнасць да Марыны Хоміч, невядома. Атрымаць адказ з РАУС не атрымалася. З судовымі справамі за пікеты гэта таксама не звязана, бо міліцыю на пошукі Марыны Хоміч суды не накіроўвалі.

Нельга выключаць, што гэта можа быць звязана з прэвентыўнымі затрыманнямі перад 12 верасня. Нагадаем, што падчас Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску ў 2014 годзе актывістку таксама падалі ў вышук. Тады ёй удалося, з'ехаўшы з гораду, пазбегнуць арышту, але былі затрыманыя многія іншыя моладзевыя лідары і актывісты.

«Мы расцэньваем такія дзеянні міліцыі падчас парламенцкай кампаніі як абуральнае парушэнне закону. Але досвед 2010 года паказаў, што ўлады могуць не чакаць заканчэння выбараў, каб арыштоўваць незалежных кандыдатаў. І любыя, нават гіпатэтычныя акцыі пратэсту выклікаюць ва ўладаў істэрычную рэакцыю», — адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

«Я не ведаю, у сувязі з чым мяне шукаюць. Пра вышук мне паведамілі сваякі і сябры маёй каманды. Я расцэньваю гэта як ціск, бо людзей запалохваюць, падчас кампаніі мяне расшукваюць нібы злачынцу. Я заклікаю беларускую міліцыю не выконваць незаконныя загады і памятаць, што ўлады таксама павінны выконваць закон і павінны несці адказнасць за супрацьзаконныя дзеянні. Мае кантактныя тэлефоны ёсць у камісіі і ў міліцыі, але мне ніхто ні разу не тэлефанаваў», — паведаміла Марына Хоміч.

**bchd.info**

# Акопы ля расійскай мяжы

**Двух актывістаў зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» — Зміцера Дашкевіча і Сяргея Пальчэўскага — затрымалі ў Веткаўскім раёне Гомельшчыны, калі яны капалі акопы ў лесе за 25 кіламетраў мяжы з Расіяй.**

Літаральна праз некалькі хвілін пасля пачатку акцыі ў лесе з'явілася група леснікоў, потым да іх далучыліся невядомыя людзі ў цывільным. Пасля прыехалі дзве машыны з міліцыянтамі ў бронекамізэльках, а таксама пажарнікі. На двух маладафронтаўцаў прыбылі 14 чалавек.

На хлопцаў склалі два пратаколы — за парушэнне цэласнасці подсцілу і жывога надглебавага пакрыцця (105 рублёў, або 5 базавых велічыняў), а таксама за неадпаведнасць нормам аптэчкі ў аўтамабілі (таксама 105 рублёў). За адміністрацыйнае правапарушэнне ў лесе ім пагражае яшчэ адзін штраф — да 420 рублёў (20 базавых велічыняў).

У аўтамабілі Дашкевіча знайшлі страйкбольны аўтамат — міліцыянты заняліся праверкай муляжу. Пальчэўскага забралі ў міліцыю для высвятлення асобы, паведаміла Радыё «Свабода».

Маладафронтаўцы меліся правесці акцыю, каб паказаць сваю гатоўнасць даць адпор расійскай агрэсіі. За 76 кіламетраў ад месца правядзення акцыі — мястэчка Клінцы ў Расіі. Ад нядаўняга часу ў гэтую мясцовасць сцягваюцца расійскія войскі.

«Расія сцягвае свае войскі на мяжу з Беларуссю, такім сімвалічным крокам мы хацелі прадэманстраваць, што іх тут будуць чакаць», — сказаў Зміцер Дашкевіч «Нашай Ніве». Па яго словах, капаць атрымалася хвілін 10–15, за гэты час былі выкапаныя два акопы для стральбы са становішча лежачы.

Калі прыехалі складаць пратаколы, Зміцер Дашкевіч заявіў, што не разумее рускай мовы.

У выніку да Дашкевіча выклікалі адразу дзвюх настаўніц беларускай мовы, якія мусілі выступіць у якасці перакладчыц. «Зладзілі нейкі цырк, зрываюць настаўніц з працы, ламаюць навучальны працэс, дзяцей адпускаюць дахаты, бо не могуць некалькі словаў па-беларуску». Праўда, потым у лес прыехаў кіраўнік веткаўскага Следчага камітэта, дык ён добра валодае беларускай мовай.

«Вось я думаю, хто павінен аддаваць загад, каб цябе прыехалі браць у лесе пад Веткай начальнік раённай міліцыі, начальнік раённага следчага камітэту, па некаторых сведчаннях начальнік раённага выканкама/КДБ, які выклікае «дзвюх перакладчыц», — куча падпалкоўнікаў, што густа прыпраўлены дзівакамі ў касках і з аўтаматамі, гэбэшнікамі, дашнікамі, ляснічымі, — адкуль у такім выпадку загадваюць?! 16-ты год апазіцыйнага стажу, а такога цырку я не бачыў ніколі», — напісаў на сваёй старонцы ў Фэйсбуку Зміцер Дашкевіч.

# У Андрэя Бандарэнкі пакуль ціха

Сяргей ПУЛЬША

**Новы ліст атрымаў юрыст Міхаіл Пастухоў ад вязня Магілёўскай турмы №4 Андрэя Бандарэнкі.**

Бандарэнка піша, што ў яго пакуль некаторае зацішша. Ужо цэлы тыдзень ніхто не прад'яўляе яму неабгрунтаваных прэтэнзій і патрабаванняў. Праўда, Бандарэнка не верыць, што пра яго «забыліся». У лісце Андрэй распавёў, як ён з адвакатам спрабуе абскардзіць рашэнне аб пастаноўцы яго на ўлік як схільнага да нападу на адміністрацыю. Першапачаткова скарга была накіравана ва Упраўленне Дэпартамента выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці. Пасля адказу з УДВП новая скарга была адрасаваная ў пракуратуру Магілёўскай вобласці. Там скаргу не сталі разглядаць і пераслалі ў тое ж УДВП. Зноў — адпіска. Бандарэнка накіраваў скаргу ў Генеральную пракуратуру. Адтуль яе перапраўлі ў Дэпартамент выканання пакаранняў. Зноў — трафарэтная адпіска. Тады ў якасці адрасата Бандарэнка і ягоны адвакат выбіраюць суд Ленінскага раёна Магілёва. Але і ён «умывае рукі», накіраваўшы скаргу... у ДВП. Як гаворыцца, кола замкнулася.

Ужо на працягу шасці месяцаў Бандарэнка дасылае скаргі ва ўсе інстанцыі, а яны ўпарта вяртаюцца да той установы, на якую ён скардзіцца.

Ліст ад Андрэя атрымала і рэдакцыя НЧ. У гэтым лісце вязень таксама зазначае, што ціск на яго паслабіўся, аднак, на яго думку, «гэта, хутчэй, імкненне расслабіць». «Дагэтуль да мяне лезлі без перапынку з не зусім адэкватнымі прэтэнзіямі: не так сядзіш, нельга мыцца, не бачна твару і г.д. Апошнім часам былі заклапочаныя падушкай, якая «не так ляжала». Але было зразумела, што мяне правакуюць на канфлікт... Я гэта разумеў, і пісаў заявы з просьбай выправіць недахопы па ўмовах утрымання. Урэшце падушку пакінулі ў спакоі», — піша ён.

«Затое ўразіў пракурор, які даслаў мне адказ на скаргу па спагнанні, якое мне вынеслі за тое, што я ляжачы чытаў... Ён умудрыўся напісаць, што пракуратура «не мае падстаў для пракурорскага нагляду»... Зараз ужо самі пракуроры прызналіся, што падстаў для іх асноўнай дзейнасці — нагляду — няма! Я, у прынцыпе, не меў сумневаў, атрымліваючы іх адпіскі. Але каб вось так шчыра! Не чакаў», — піша вязень.

І дадае, што ўсе яго скаргі на спагнанні і пастаноўку на прафілактычны ўлік засталіся без задавальнення.

# «Тыдзень беларускага мыслення»

Юлія ГАЛІНОЎСКАЯ

**Дзясяткі разнастайных мерапрыемстваў па ўсёй краіне штодня будуць аб'ядноўваць беларусаў, для якіх мысленне з'ўляецца безумоўнай каштоўнасцю.**

Арганізатары падкрэсліваюць, што, кажучы «мысленне», разумеюць не прафесійную прыналежнасць, але перадусім здольнасць выказвацца свабодна, свядома ды абгрунтавана.

Шэраг інстытуцый грамадзянскай супольнасці ды адукацыйных устаноў аб'ядналіся ідэяй беларускага мыслення як часткі нашай ідэнтычнасці, самаразумення нацыі, шляхоў асэнсавання яе сутнасці ды прызначэння. У канцы мая 2015 года імі быў распачаты супольны праект «Цытуй сваё!», які паслужыў стартам «Года беларускага мыслення». Яскравыя падзеі года шырока і публічна прадстаўлялі інтэлектуальныя здабыткі Беларусі і прасоўвалі іх у сучасную культуру.

Ініцыятыва «Цытуй сваё» атрымала свой працяг у выданні зборніка і стварэнні арыгінальных дызайнерскіх сакалак, была выдадзена і прэзентавана Анталогія беларускага мыслення «Код прысутнасці», адбылася серыя публічных лекцый і дыскусій «Спадчына Ігната Абдзіраловіча», а таксама быў абвешчаны конкурс эсэ, прысвечаны постацям, ідэям і кантэкстам паўставання беларускай інтэлектуальнай традыцыі. Падвядзенне вынікаў конкурсу і ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца 25 верасня — на завяршальнай імпрэзе «Тыдня».

Такім чынам, «Тыдзень беларускага мыслення», які пройдзе ў Беларусі з 19 па 25 верасня, ставіць за мэту падвесці вынікі года і прадставіць усю разнастайнасць формаў і праяваў беларускага мыслення ў сучасным беларускім грамадстве. У спіс арганізатараў «Тыдня беларускага мыслення» ўваходзяць: Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь», Лятучы ўніверсітэт, грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!», Беларускі Калегіум, «Мова Нанова», «Беларусский журнал», кнігарня «Логвінаў» і Інстытут палітычных даследаванняў «Палітычная сфера».

Распачнецца «Тыдзень беларускага мыслення» адкрыццём выставы «Cogito Albarutheniae. Панарама беларускага мыслення», якую ладзяць «ЕўраБеларусь», Лятучы ўніверсітэт, Беларускі Калегіум 16 верасня ў 19.00 у прасторы Корпус 8 (пр. Машэрава, 9).

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошай многа не бывае

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Зараз мы ўсе ведаем запаветную мару Аляксандра Рыгоравіча. І яна цалкам тлумачыць, чаму ў нас за апошнія дзесяцігоддзі было на рознага кшталту купюрах так шмат нулёў. Нават нягледзячы на дэнамінацыю, мы дагэтуль у іх блытаемся.**

Кіраўнік Беларусі сказаў 6 верасня ў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву ТАСС для тэлефільма, прысвечанага 25-годдзю СНД, і тэлепраграме «Формула ўлады», што марыць, каб у Беларусі людзі ніколі не перажывалі аб тым, што ім не хапае грошай. «Вы ведаеце, я хацеў бы, каб людзі ніколі, зазіраючы ў гаманец або сваю кішэню, не думалі пра тое, што ім на нешта не хапае. Заўсёды часткі народу чагосьці не хапае, гэта натуральна. А я б хацеў, каб людзі ў Беларусі ніколі на гэта не пакутавалі — вось яна, мая адзіная мара».

Народ пачуў, зразумеў і адразу ўзгадаў Леаніда Філатава: «Ранкам мажу бутэрброд, раптам думка: «Як народ?» І ікра не лезе ў глотку, і кампот не льецца ў рот». Прыгадалі яны і абяцанкі заробкаў у 500 і 1000 долараў у эквіваленце. Карацей, няўдзячны народ у Аляксандра Рыгоравіча, калі глядзець на абмеркаванні ў інтэрнэце.

Згадаў «народзец» і статыстыку па заробках за другі квартал гэтага года. Згодна з ёю, каля 4,7 мільёна беларусаў жывуць у месяц на 350 рублёў і менш. «То бок, больш за палову краіны жыве на $180 у месяц — шыкоўны вынік 22-гадовага кіравання», — адзначаюць каментатары.

Аднак кіраўніка зноў няслушна зразумелі. Хіба ён казаў, што грошай у гаманцы павінна быць багата? Не. Ён казаў пра тое, каб беларусы «не думалі, што ім на нешта не хапае». І каб яны праз гэта не пакутавалі. То бок, галоўнае тут — не грошы. Галоўнае — не думаць, не турбавацца і не пакутаваць. А гэтая мара паступова і паспяхова ажыццяўляецца. Бо шмат хто з насельніцтва галасаваў за пяты тэрмін Аляксандра Рыгоравіча пад лозунгам «абы не было вайны». Сапраўды, яны ж не думалі, што ім не хапае грошай? Галоўнае — каб вайны не было. І да далёкай зорачкі тое, што ваяваць з намі ніхто і не збіраўся.

І пакуль насельніцтву Беларусі сапраўды грошай не бракуе. Сённяшняе лета было парадаксальным для грашовай сістэмы. Звычайна ўлетку народ скупае валюту, каб было на што паехаць адпачыць да нейкага цёплага мора. У гэтым жа жніўні суайчыннікі прадалі банкам рэкордны аб'ём валюты наяўнымі: 670,4 мільёна долараў, што на 16% больш за ліпень. Цікавасць да набыцця валюты таксама вырасла — на 19,6% у параўнанні з мінулым месяцам, да 351,1 мільёна долараў наяўнымі. Але і рэкордная купля не перашкодзіла перабіць ліпеньскі рэкорд па аб'ёме чыстага продажу наяўнай валюты — 319,3 мільёна долараў.

А з пачатку года грамадзяне Беларусі прадалі на чыстай аснове ўжо 1,5 мільярда долараў у эквіваленце.

Гэта значыць, што доларавыя «заначкі» насельніцтва імкліва



скарачаюцца. Паводле падлікаў эканамістаў, на пачатак года ў насельніцтва было каля 8 мільярдаў долараў. Зараз, атрымліваецца, засталося 6,5 мільярда. І гэта пры тым, што народ змяняе сваю спажывецкую мадэль — пачынае эканоміць на ўсім, чым можна. Адсюль выснова: нават ва ўмовах «жорсткай эканоміі» беларускія кошты вымагаюць ускрываць заначкі.

Каб ажыццявіць мару Аляксандра Рыгоравіча, ёсць і крайні выпадак. Трэба зрабіць так, каб у беларусаў грошай не было ўвогуле. Зразумела, калі грошай няма зусім, навошта турбавацца, што на нешта не хапае? Няма — і ўсё.

Прычым, для некаторых менавіта гэта і робіцца. Паводле інфармацыі інтэрнэт-часопіса «Штодзённік», за апошнія тры месяцы ў Мінску былі здзейсненыя дзве найбуйнейшыя здзелкі па продажы знакавых аб'ектаў, якія належаць вядомаму бізнесоўцу Юрыю Чыжу. Чыж зараз пад следствам, яму інкрымінуюць нанясенне шкоды ў памеры 238,7 мільярда недэнамінаваных рублёў (каля 12 мільёнаў долараў). Менавіта на гэтую суму, па версіі праваахоўнікаў, бізнесмен і яшчэ пяць яго падручных, якія таксама знаходзяцца пад вартай, ухіліліся ад выплаты падаткаў і збораў.

Але што цікава, кошт здзелак з аб'ектамі Чыжа ў разы перавышае інкрымінаваную яму шкоду. Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, у канцы ліпеня Чыж прадаў за амаль 21 мільён долараў гандлёвы цэнтр ProStore у Мінску на вуліцы Каменнагорскай, 5. Больш загадкавай стала здзелка па продажы кінатэатра Silver Screen, размешчанага ўнутры гандлёвага цэнтра «Арэна-Сіці», які таксама належыць Чыжу. Кінатэатр быў прададзены за 74,7 мільёна долараў. Зразумела, што столькі адзін кінатэатр каштаваць не можа. Магчыма, за продажам кіно на самай справе схаваны продаж усяго ГЦ «Арэна-Сіці».

Навошта Чыжу столькі грошай? Меркавана, ён прадае свае аб'екты не толькі, каб пагасіць шкоду, але, магчыма, каб прасіць Лукашэнку пра памілаванне. У такім выпадку камісія па памілаванні зазвычай патрабуе акрамя пагашэння шкоды яшчэ і кампенсацыю з каэфіцыентам ад 1,5 да 3. Гэта значыць, што ад апальнага бізнесмена маглі папрасіць і 36 мільёнаў долараў за магчымасць выйсці на свабоду. Ну і яшчэ за сваіх саўдзельнікаў накінуць...

І, канешне ж, цікава, хто адваліў амаль 100 мільёнаў долараў за аб'екты Чыжа. Пакуль імя пакупнікоў не разгалошваецца. Тым не менш, вельмі хочацца пабачыць, у каго з'явіліся сродкі, якімі можна аддаць Расіі палову беларускага доўгу за газ?

Таму што для звычайных грамадзян нават месяц пратэрмінаўкі аплаты ЖКГ з'яўляецца нагодай для турбот. А «жыроўка» можа прыйсці нават у Фэйсбук. Пра гэта агенцтву «Мінск-Навіны» паведамілі ў філіяле «Адзіны РДЦ Мінска» КУП «Цэнтр інфармацыйных тэхналогій Мінгарвыканкама».

Гэты спосаб выкарыстоўваецца ў выпадках, калі няма іншых магчымасцяў звязацца з жыхарамі, у якіх утварылася запазычанасць больш чым за 1 месяц. «Чалавек не адказвае на званкі на хатні тэлефон, не адкрывае дзверы ў кватэру, нідзе не працуе афіцыйна. Магчыма, з'ехаў. У такіх выпадках пачынаем шукаць праз сацыяльныя сеткі. І многіх знаходзім. Адпраўляем паведамленне аб наяўнасці запазычанасці, прапануем пагасіць яе ў добраахвотным парадку, інфармуем пра магчымыя наступствы», — кажуць у цэнтры.

Як правіла, гавораць спецыялісты, людзі ставяцца да такіх нагадванняў збольшага станоўча, і запазычанасць пагашаюць. «Мы нагадалі — аплата паступіла», — кажуць у цэнтры.

Так што, калі да вас у фрэнды пагрукаецца нехта з нікам «ЖКГ» — не турбуйцеся. Проста стаўце «лайк».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Вольга Кавалькова

**Кандыдатка ў дэпутаты ад хрысціянска-дэмакратычнага руху дамаглася таго, каб яе праграму надрукавала газета Адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия».**

Зразумела ж, надрукавалі праграму Кавальковай не бясплатна.

«Даведаўшыся, што «Советская Белоруссия» надрукавала за грошы праграму кандыдата Кошчава, я вырашыла таксама туды звярнуцца, бо рэдактар абяцаў роўныя ўмовы для ўсіх. Я была ўпэўненая, што ў друку праграмы адмовяць, але Павел Якубовіч паставіўся прыязна і пагадзіўся на такіх жа ўмовах, як папярэдняму кандыдату, надрукаваць праграму», — адзначыла Кавалькова ў інтэрв'ю партыйнай прэс-службе.

«Я скарысталася гэтай магчымасцю, бо гэта, напэўна, адзіная магчымасць выкарыстоўваць дзяржаўную газету для звароту да грамадзян Беларусі. Хоць, безумоўна, газета з'яўляецца дзяржаўным органам і павінна даваць месца для апазіцыі рэгулярна, і не толькі за грошы. На жаль, гэтага не адбываецца», — падкрэсліла лідарка ХДР.



## Ігар Сокал

**Упершыню за 15 гадоў Беларусь памяняла пасла ва Украіне. Кіраўніка дыпламатычнага корпуса ў Кіеве Валянціна Вялічку замяніў Ігар Сокал.**

Новы беларускі пасол ужо ўручыў копіі даверчых грамат намесніку міністра замежных спраў Украіны — кіраўніку апарата МЗС Вадзіму Прыстайка, паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі.

«У ходзе сустрэчы бакі абмеркавалі стан і перспектывы развіцця беларуска-ўкраінскага супрацоўніцтва, а таксама шэраг актуальных пытанняў рэгіянальнага і міжнароднага парадку дня», — праінфармавалі ў МЗС.

Ігар Сокал у пачатку 2015 года быў прызначаны кіраўніком апарата Савета міністраў. Да гэтага ён кіраваў пасольствам Беларусі ва Узбекістане. Яшчэ раней займаў пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення міжнароднага супрацоўніцтва і гандлю апарата Саўміна. Яго новае пасольскае прызначэнне можна расцэньваць як выкананне загаду Лукашэнкі, каб паслы былі яшчэ і гандлярамі беларускімі таварамі.



## Аляксандр Хацкевіч

**Галоўны трэнер зборнай Беларусі пасля матчу з Францыяй (0:0) рассыпаўся ў кампліментах заўзятарам. Адчуванне такое, што без іх бы зборная прайграла.**

Хацкевіч сказаў пра заўзятараў, што «гэта быў наш 12-ы гулец на працягу ўсяго матчу. І ён дзесьці таксама быў на полі. Была проста фантастычная атмасфера. Заўзятарам трэба пакланіцца».

Зборная правяла першы матч у новай форме — з нацыянальным арнаментам. І не толькі зборная была ў новай форме — увесь стадыён быў у ёй. «Вядома, гэта надало нам упэўненасці. Была проста вар'яцкая падтрымка. Я ўжо казаў, што я за гэтую форму. Вядома, добра, каб яна нам прынесла поспех», — адзначыў трэнер.

Як ніколі шматлікі фан-сектар зборнай выдатна падтрымліваў «белакрылых». Ультрас зараджалі і «Купалінку», і «Воінаў свята» і «Жыве Беларусь». І яшчэ ўмудрыліся зладзіць фаер-шоў.

«Хочацца падзякаваць заўзятарам. Хацелася б, каб гэта было не толькі на гульнях з камандамі Францыі і Іспаніі. Нам патрэбна падтрымка на працягу ўсяго адборачнага цыклу», — сказаў Хацкевіч.

«Усім хацелася перамагчы, — распавядае абаронца нашай каманды Сяргей Паліцэвіч. — Людзі падтрымалі новы трэнд федэрацыі. Французы дакладна не абрэзалі нам крылы шмат у чым дзякуючы заўзятарам, якія, спадзяюся, прыйшлі на стадыён не толькі, каб паглядзець на зборную Францыі. Хочацца, каб на наступны хатні матч з Люксембургам сабралася столькі ж народу. Тым больш будзе крыху іншая гульня, у якой ужо мы будзем больш атакаваць».

а Азбука паліталогіі

# Прымат Інстытута сацыялогіі супраць прымату НІСЭПД



Сяргей НІКАЛЮК

**Вынікі апытанняў дзяржаўных сацыялагічных службаў супярэчаць афіцыйнай міфалогіі, а таму не публікуюцца.**

Доктар сацыялагічных навук, прафесар, дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі — гэта ўсё Катляроў Ігар Васільевіч. Натуральна, да яго за прафесійным каментарам і звярнуліся аўтары нашумелага фільма «Прымат НІСЭПД». Цытую: «Мы заўсёды ў сваім інстытуце дзівімся, адкуль бяруцца гэтыя сацыялагічныя дадзеныя. Потым яны з'яўляюцца ў інтэрнэце. Потым іх абмяркоўваюць. Робяць нейкія высновы, у той жа час зусім не зразумела, што і адкуль бярэцца. І я неаднаразова казаў пра тое, што гэтымі дадзеным верыць нельга. Усё гэта, вядома, падман, бязумоўная падтасоўка».

Не буду спрачацца з масцітым навукоўцам. Але падманы і падтасоўкі мяне не цікавяць. Мяне цікавіць ісціна. Калі ў НІСЭПД шукаць яе бессэнсоўна — бо гэта сумнеўная структура, якая з Інстытутам сацыялогіі і побач не стаяла, — значыць, знаходзіць праўду трэба ў іншым месцы.

## А хто замаўляе?

«Місія Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, — чытаю на сайце інстытута, — сістэмнае вывучэнне стану і дынамікі развіцця палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сфер Рэспублікі Беларусь на аснове правядзення рэгулярных фундаментальных і прыкладных сацыялагічных даследаванняў».

Якая ўдача! Мяне якраз цікавяць не адрывістыя і фрагментарныя веды пра беларускае грамадства, а атрыманыя на падставе сістэмнага вывучэння. Такім чынам, я на правільным шляху! Хутка праглядаю сайт, але ніякай канкрэтнай інфармацыі не знаходжу. Ні адной табліцы, ні аднаго графіка.

Прычыну няўдачы мне дапамагла зразумець журналістка інфармагенцтва БелаПАН Таццяна Каравянкова. З аналагічнай мэтай яна звярнулася за тлумачэннем да вучонага сакратара арганізацыі Ірыны Лісоўскай. І вось які адказ быў атрыманы: «Даследаванні робяцца па замове, вынікі перадаюцца заказчыку. У адкрыты доступ вынікі даследаванняў, як правіла, не выкладваюцца, таму што гэта інтэлектуальная ўласнасць».

Тут патрэбна тлумачэнне. Адзін з вядучых сацыёлагаў сучаснасці, прафесар Каліфарнійскага ўніверсітэта Майкл Буравой аддзяляе публічную сацыялогію, якая звяртаецца да неакадэмічнай супольнасці, ад прафесійнай, крытычнай і прыкладной. Апошняя існуе для замоўцы і на яго грошы. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што замоўца не толькі вызначае мэты даследавання, але і з'яўляецца эксклюзіўным уладальнікам атрыманых вынікаў.

Але хто замаўляе сістэмнае вывучэнне «стану і дынамікі развіцця палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сфер Рэспублікі Беларусь»?

Можна, вядома, выказаць здагадку, што акадэмічны інстытут на рэгулярнай аснове праводзіць апытанні па замовах бізнесу. Але бізнес пералічанымі вышэй сферамі, як правіла, не цікавіцца. За чый жа тады кошт дзяржаўная даследчая структура пад кіраўніцтвам масцітага навукоўца выконвае сваю місію? Я мяркую, за бюджэтныя грошы, г. зн. за грошы падаткаплацельшчыкаў.

Падаткаплацельшчыкі (яны ж НАРОД) і павінны з'яўляцца эксклюзіўнымі ўладальнікамі атрыманых вынікаў. Гэтая выснова не супярэчыць Канстытуцыі, якая, калі хто забыўся, пачынаецца словамі: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі), зыходзячы з адказнасці за сучаснасць і будучыню Беларусі, усведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнай супольнасці...»

Вось такі ў нас паўнапраўны суб'ект сусветнай супольнасці, і гэтаму суб'екту спадарыня Лісоўская і яе тытулаваны кіраўнік адмаўляюць у праве ведаць праўду пра самога сябе нават за ўласныя грошы.

## «Еўрабеларусы» галасуюць за Лукашэнку

Мая кампутарная бібліятэка на слова «Катляроў» адгукнулася файлам, што змяшчае стэнаграму анлайн-канферэнцыі масцітага навукоўца, якая адбылася ў БелТА 29 кастрычніка 2011 года.

Цікавы дакумент. Двойчы на год Інстытут сацыялогіі праводзіць маніторынг сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краіне, вывучае стаўленне беларусаў да палітычных структураў, палітычных партыяў і да праблемных пытанняў. Вынікі маніторынгу «мы стараемся данесці да шырокай аўдыторыі. Яны размяшчаюцца ў нас на сайце, актыўна друкуюцца ў сродках масавай інфармацыі». Плюс да ўсяго інстытут выпускае сацыялагічны альманах — зборнік навуковых прац супрацоўнікаў інстытута і вядомых у краіне сацыёлагаў.

Альманах знаходзіцца ў адкрытым доступе. Апошні нумар аб'ёмам у 496 старонак выйшаў у 2016 годзе. Да маёй радасці, у артыкуле Смірновай Р. А. «Матывы выбару рабочай прафесіі і інтэграцыі ў вытворчасць моладзі краіны» мне ўдалося адшукаць некалькі лічбаў, якія характарызуюць рэакцыю беларусаў на эканамічны крызіс. Само ж паняцце «эканамічны крызіс» у альманаху адсутнічае. Такое вось своеасаблівае разуменне таго, што ў сапраўдны момант з'яўляецца «праблемным пытаннем».




Між іншым, «некалькі лічбаў» Смірновай прынцыпова не адрозніваюцца ад дадзеных НІСЭПД. І гэта далёка не адзінкавы выпадак. У стэнаграме анлайн-канферэнцыі Катлярова ёсць пасаж, прысвечаны геапалітычнай арыентацыі беларусаў: «Трацiна насельнiцтва згодная, каб Беларусь увайшла ў Еўрапейскі саюз». Такі ўзровень еўрапейскіх пераваг цалкам у рэчышчы даследаванняў НІСПД!

Але якім чынам «еўрабеларусы» ўмудраюцца дружна падтрымліваць на прэзідэнцкіх выбарах Лукашэнку, зразумець я не змог. Ні на сайце інстытута, ні ў альманах тлумачэнняў з гэтай нагоды знайсці не атрымалася. Аднак у тым, што такая падтрымка рэальная, дзяржаўная сацыялогія не сумняваецца. Яна, абапіраючыся на прынцыпова новую (для Беларусі) мадэль даследавання меркаванняў выбаршчыкаў на выхадзе з выбарчых участкаў (экзіт-полаў), зафіксавала 11 кастрычніка 2015 года вынікі, «якія практычна цалкам супалі з вынікамі, абвешчанымі Цэнтрвыбаркамам Рэспублікі Беларусь».

## Крымінальны кодэкс як месца перасячэння дзвюх рэальнасцяў

Зразумела, галоўнае табу дзяржаўнай сацыялогіі — рэйтынг Лукашэнкі. Ці азначае гэта, што ён не вымяраецца ў ходзе рэгулярных маніторынгаў? Напэўна ж, вымяраецца, і вымяраецца прафесійна. Па гэтай прычыне і не публікуецца.

Каб растлумачыць такі парадокс, я звярнуся па дапамогу да расійскага сацыёлага Сымона Кардонскага, згодна з якім у аўтарытарных палітычных сістэмах — кшталту расійскай і беларускай — варта адрозніваць рэальнасць ад таго, што адбываецца на самай справе (Рэальнасць–1 ад Рэальнасці–2).

Рэальнасць–1 — гэта тое, што абмяркоўваецца ў медыйнай прасторы афіцыйнымі СМІ і апісваецца ўсёй сукупнасцю заканадаўчых актаў. У Рэальнасці–1, напрыклад, беларускі народ усведамляе сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнай супольнасці, існуе парламент і выбары (бліжэйшыя, дарэчы, адбудуцца ў верасні). А ў Рэальнасці–2 існуе атамізаванае насельніцтва, канстытуцыйныя правы якога чыноўнікі ўзроўню навуковага сакратара бюджэтнай арганізацыі могуць спакойна ігнараваць. Што тычыцца парламента і выбараў, то тлумачыць іх сапраўдную ролю ў Рэальнасці–2, думаю, не мае асаблівага сэнсу.

Перакрыжаванне дзвюх рэальнасцяў калі і адбываецца, дык, як правіла, у крымінальным кодэксе. Таму інфармацыя, якая трапляе з Рэальнасці–2 у публічную прастору, г.зн. у Рэальнасць–1 (сапраўднае значэнне рэйтынгу Лукашэнкі, напрыклад) здольная апошнюю разбурыць.

Інстытут сацыялогіі — адна з нямногіх дзяржаўных структур, што спецыялізуюцца на вывучэнні Рэальнасці–2, і таму ён не можа публікаваць вынікі нацыянальных апытанняў на сацыяльна-палітычныя тэмы. Часам у сілу паслаблення самацэнзуры «няправільныя» вынікі прасочваюцца ў інфармацыйную прастору. Але гэта тэма для асобнай размовы.

## Грамадзянская супольнасць індзейцаў

На працягу двух дзесяцігоддзяў абмеркаванне вынікаў НІСЭПД у публічнай прасторы нагадвала дзіцячую картачную гульню «верыш — не верыш». Пры гэтым нявер'е прыкметна пераважала над верай як сярод прадстаўнікоў улады, так і яе апанентаў.

Вядомае выслоўе Маркса кажа, што калі б геаметрычныя аксіёмы закранали інтарэсы людзей, дык яны б былі аспрэчаныя. А вынікі НІСЭПД закраналі інтарэсы многіх, і ў першую чаргу людзей актыўных. Яны не пацвярджалі афіцыйнай пастаральнай карцінкі, з яе агульнанацыянальнай згуртаванасцю вакол фігуры адзінага палітыка і аднача́сова руйнавалі апазіцыйны міф пра масавае імкненне беларусаў да свабоды і дэмакратыі.

«Праблема, — і тут варта пагадзіцца з дырэктарам «Лявада-Цэнтра» Львом Гудковым, — не столькі ў супраціве дадзеных апытанняў або ў нежаданні чуць тое, што не падабаецца, колькі ў негатоўнасці нашай публікі аналізаваць тое, што адбываецца, разумець працяглыя працэсы. Агульны ўзровень разумення сацыяльных праблем нашага грамадства не проста нізкі, ён — убогі».

Сацыялагічныя веды прыйшлі да нас з іншага тыпу грамадства. Яны адлюстроўваюць іншыя, больш складаныя тыпы чалавечых сувязяў і адносін. Наша масавая і інтэлігенцкая свядомасць, сутыкнуўшыся з гэтай складанасцю, арганізавала кругавую абарону. Яе мэта — абарона ад непрыемных фактаў, якія падрываюць станоўчае меркаванне пра саміх сабе.

Для ілюстрацыі «нашага ўзроўню» разумення зноў адкрыю апошні нумар «сацыялагічнага альманаха», які распачынаецца артыкулам Ігара Катлярова (галоўны рэдактар) «Дзяржава vs грамадзянская супольнасць: традыцыя ці рэальнасць (сацыялагічны дыскурс)».

Абмяжуюся адной цытатай-перлам: «Найбольш яскравым прыкладам рэалізацыі мадэлі «дзяржава супраць грамадзянскай супольнасці» з'явілася вайна дзяржавы САСШ (Паўночна-Амерыканскія Злучаныя Штаты) супраць карэнных жыхароў Паўночнай Амерыкі — індзейцаў, іх плямёнаў, паселішчаў і нацыянальных структур — тыповых прадстаўнікоў асноў грамадзянскай супольнасці)».

Спецыяліст, які разглядзеў у амерыканскіх індзейцаў у першай палове XIX стагоддзя асновы грамадзянскай супольнасці, у сучаснай Беларусі змог выявіць гэты сацыяльны феномен ужо на вышэйшай стадыі яго развіцця! Так што пытанне пра еўрапейскі выбар для нас не актуальнае. На парадку дня стаіць пытанне пра беларускі выбар еўрапейцаў.

# Беларусь паміж феадальным і постіндустрыяльным

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Нейкім дзіўным чынам сённяшняя Беларусь апынулася ў своеасаблівым гістарычным трохкутніку — паміж феадальнай, індустрыяльнай ды постіндустрыяльнай мадэлямі грамадства.**

Калі ідуць развагі пра той ці іншы лад пабудовы эканомікі і грамадства, звычайна пачынаецца параўнанне паміж трыма рознымі этапамі развіцця цывілізацыі — феадалізмам, індустрыяльным ды постіндустрыяльным грамадствам. Здавалася б, феадалізм застаўся недзе ў XVI стагоддзі, індустрыяльны лад — у XX стагоддзі, а постіндустрыяльны мы павінны назіраць зараз. Але ж насамрэч усё больш складана.

## Лад гаспадарання

Як выглядаюць феадальныя, індустрыяльныя ды постіндустрыяльныя краіны ў сённяшнім свеце? Чым адрозніваюцца? Паглядзім на канкрэтных прыкладах. За апошнія чвэрць стагоддзя на 90% індустрыяльная вытворчасць з Паўночнай Амерыкі і Еўропы пераехала ў Азію (найперш — у Кітай). Але гэта зусім не азначае, што цяпер Еўропа ды Амерыка залежаць ад Азіі, якая для іх усё вырабляе. Чаму так, можна разабрацца, паглядзеўшы, як вырабляецца адзін з сімвалаў сучаснасці — iPhone.

Па дадзеных самой карпарацыі Apple, кітайскай фабрыцы ў правінцыі Сычуань, якая непасрэдна вырабляе «Айфоны», дастаецца ўсяго 1% (!) ад агульных выдаткаў на яго вытворчасць. Практычна ўсе камплектуючыя вырабляюцца ў Кітаі ды Паўднёвай Карэі. Apple не мае ўласных вытворчасцяў. Але 99% выдаткаў — гэта тое, што робіцца ў ЗША. Гэта канструяванне, дызайн, аперацыйная сістэма, маркетынг, рэклама, адлічэнні ўладальнікам патэнтаў, уласныя крамы па ўсім свеце. Гэта праца мазгамі. Зборка iPhone на заводзе ў Кітаі — гэта індустрыяльны лад. Распрацоўка ды суправаджэнне ў ЗША — постіндустрыяльны. А што тады феадальны лад? Гэта Расія. І, на жаль, часткова — Беларусь.

Глядзіце, вось расійскі «Газпрам». У ім працуе 459 тысяч чалавек, якія ў 2014 годзе забяспечылі кампаніі чысты прыбытак у памеры $3,5 мільярда. У тым жа 2014-м 80 тысяч супрацоўнікаў Apple прынеслі сваёй карпарацыі $39,5 мільярда чыстага прыбытку. Чысты прыбытак на кожнага супрацоўніка «яблачнай кампаніі» — $493.750, на кожнага супрацоўніка расійскага газавага асілка — $7.625. Як бачым на гэтым прыкладзе, адзін супрацоўнік, які працуе ў постіндустрыяльнай карпарацыі, дае рэнтабельнасць у 65 разоў вышэйшую за супрацоўніка, які працуе ў карпарацыі, што засталася ў феадалізме. Бо гандаль сыравінай — газам, у які пераўтварыліся памерлыя дыназаўры, — гэта феадальны лад гаспадарання.

Яшчэ крыху лічбаў: у Apple чысты прыбытак складае 21,5% ад абароту, у «Газпрама» — усяго 3,4%. Пры тым у «Газпрама» найбольшая частка выдаткаў — здабыча ды транспарціроўка газа, а ў Apple — заработная плата персаналу.

Феадальны лад гаспадарання — гэта, калі асноўная частка дададзенай вартасці ствараецца праз здабычу ды продаж сыравіны. Індустрыяльны лад — калі тая ж дададзеная вартасць збольшага ствараецца працоўнымі на фабрыках. Постіндустрыяльны лад — дададзеную вартасць забяспечвае праца мазгамі ў офісах. Адрозненне ў рэнтабельнасці паміж гэтымі ладамі гаспадарання — шматразовае. А вось галоўны прынцып: пры феадальным ды індустрыяльным ладзе выйграе той, хто прапануе больш танны прадукт, а пры постіндустрыяльным — той, хто прапануе ўнікальны прадукт.



Таму беларуская ўлада можа колькі заўгодна разважаць пра развіццё інавацыйных вытворчасцяў — але выходзіць Указ №78, і патрабаванне «скараціць на 25% сабекошт прамысловай вытворчасці» адразу паказвае, які насамрэч лад гаспадарання ў Беларусі.

## Напярэдадні будучыні

Сёння аснова беларускага экспарту — слаба перапрацаваная сыравіна (феадальны лад) ды розная тэхніка (індустрыяльны лад). Ёсць і элементы постіндустрыяльнага ладу — экспарт праграмнага забеспячэння ды паслуг па яго распрацоўцы. Але ўсяго гэтага ледзьве хапае нават на тое, каб забяспечыць сённяшнія патрэбы краіны. Што будзе заўтра?

Калі казаць пра тое, што адбываецца за межамі нашай краіны, то ў поўным сэнсе постіндустрыяльны лад наступіць тады, калі пачне паўсюдна ўжывацца прамысловы 3D-друк, нанаэлектроніка ды «інтэрнэт рэчаў» (Internet of Things — IoT). Таксама характэрнай рысай постіндустрыяльнага часу будзе рэзкі ўсплёск энергаэфектыўнасці.

У новы час масавая вытворчасць будзе грунтавацца на вырабе матэрыялаў з патрэбнымі ўласцівасцямі наўпрост з базавых малекул. Гэта ўжо не фантастыка. Як вынік, энергазатраты паменшацца на два парадкі, рэсурсаёмістасць — яшчэ больш. Ужо зараз на парадак падвышаецца эфектыўнасць акумулятараў і сонечных панеляў. За мінулыя 40 гадоў сабекошт сонечнай энергіі знізіўся ў 200 разоў. ККД сонечнай батарэі дасягнуў 44,7% супраць 1% у 70-х гадах.



Калі гэта ўсё адбудзецца, «Газпрам» пераўтворыцца ў нішто. Адпаведна, абрынецца ўся эканамічная мадэль Расіі — краіны, што жыве за кошт эканомікі ўчорашняга дню, прычым найбольш прымітыўнага яе сегмента: здабычы ды экспарту сыравіны. Ну а эканоміка Беларусі, на жаль, занадта моцна залежыць ад эканомікі Расіі.

Адсюль лагічна вынікае: трэба зрабіць нешта, каб пачаць рухацца ў постіндустрыялізм. Як ні дзіўна, для гэтага найперш патрэбная індустрыя (і таму Беларусі гэты крок пры жаданні зрабіць будзе значна лягчэй, чым Расіі). Нашы прапагандысты любяць распавядаць, што, маўляў, на Захадзе адбываецца дэіндустрыялізацыя. Не! На Захадзе ідзе эфектыўны падзел працы. У Каліфорніі тыя ж iPhone ствараюць, пішуць для іх праграмы ды распрацоўваюць маркетынгавую палітыку. А вось заводы-зборшчыкі знаходзяцца ў Азіі, хаця гэта адзіны ланцуг вытворчасці. Тым не менш, азіяты атрымліваюць 1% прыбытку, а «белыя каўнерыкі» ў ЗША — 99%.

Што адбываецца далей? Вакол тых самых «белых каўнерыкаў» фармуецца велізарная сучасная — постіндустрыяльная — эканоміка паслуг. Гэта адзін полюс існавання. На другім полюсе — кітайскія фабрыкі кампаніі Foxconn, на якіх збіраюць сучасныя гаджэты, і ў тым ліку iPhone. Там працуе болей за 1,2 мільёна чалавек, але чысты прыбытак Foxconn — такі ж, як у «Газпрама». Якія высновы? Беларуская ўлада ганарыцца высокім узроўнем індустрыялізацыі, але сёння гэта ўжо не актуальна. Свет ідзе далей, але мы чамусьці працягваем чапляцца за савецкую/кітайскую індустрыяльную мадэль.

Яскравае пацвярджэнне менавіта папярэдняму сказу — сам факт стварэння ў Беларусі вытворчасці кітайскіх аўтамабіляў Geely. Ну, і тое, што вышэйшыя беларускія чыноўнікі (з кіраўніком краіны ўключна) шчыра лічаць завод Geely увасабленнем высокіх тэхналогій у Беларусі.



Амерыканцы палічылі за лепшае ўвогуле пахаваць сваю аўтамабільную індустрыю — разам з Дэтройтам. Так, для самога горада гэта катастрофа. Але агулам для эканомікі ЗША — найлепшае выйсце. Бо амерыканскія кампаніі кантралююць большасць сусветнай вытворчасці аўтамабіляў — у тым ліку ў тым жа Кітаі. І тут паўтараецца сітуацыя з Apple і Foxconn: аўтазаводы вырабляюць самі машыны за невялікі працэнт ад прыбытку, а галоўныя, хто атрымлівае прыбытак, — гэта амерыканскія бізнесоўцы, інжынеры, дызайнеры ды банкіры. Дарэчы: буйнейшы кітайскі аўтавытворца — Geely Holding Group — часткова кантралюецца амерыканцамі — канцэрнам Ford, які прадаў кітайцам належаўшую яму кампанію Volvo.

Як ЗША, так і Заходняя Еўропа лёгка адмовіліся ад уласных вытворчасцяў тавараў народнага спажывання, бытавой электронікі ды шмат чаго іншага. Але ніхто і не плануе перавозіць у Азію вытворчасці ВПК ці аэракасмічны комплекс. Бо смартфоны ў XXI стагоддзі — прадукцыя з мінімальнай дададзенай вартасцю, а вось самалёт ці спадарожнік — зусім іншая справа.

## Рэзюме

Напрыканцы XIX стагоддзя для многіх краін выбар быў просты: індустрыялізацыя або смерць. Расійская імперыя не здолела індустрыялізавацца — і быў 1917 год. А індустрыю вялікай крывёй ствараў ужо Сталін.

Сёння, ужо для Беларусі, альтэрнатыва падобная: постіндустрыялізацыя або смерць. Але мы, маючы адносна індустрыяльную эканоміку, пакуль маем інстытуты феадальнага грамадства — нязменны ўладар краіны, цалкам залежныя ад яго суды... Ды што я вам распавядаю? Феадальнае па сваёй сутнасці грамадства не здольнае пераскочыць да постіндустрыяльнага ладу эканомікі.

Значыць, патрэбна сацыяльна-палітычная рэвалюцыя. Пажадана — мірная, не разбуральная.

І тут беларусы павінны разумець: наўпроставае наступства такой рэвалюцыі — рэзкае, у шмат разоў, падвышэнне ўзроўню жыцця. Бо постіндустрыяльная эканоміка — гэта эканоміка звышвысокай дададзенай вартасці, калі ў канечным кошце прадукту асноўная частка — гэта заробак.

Сёння мы гэта назіраем у IT — беларускія праграмісты зарабляюць у дзясяткі разоў болей, чым рабочыя на заводах. Праграміст працуе ў постіндустрыяльнай вытворчасці, рабочы — у індустрыяльнай. А калгаснік, які зарабляе значна меней, чым рабочы — увогуле ў феадальнай.

# Нармальная сусветная

Мікалай ДЗЯДОК

**Як вядома, 12 верасня Мікола Статкевіч заклікае прыйсці на акцыю за сапраўдныя выбары.**

У акцыі, паводле меркавання палітыка, маюць права ўзяць удзел сотні дэмакратычных назіральнікаў, занятых у нядзелю на «выбарах», якія могуць расказаць нам шмат цікавага з убачанага. Пакуль цяжка сказаць, ці шмат людзей прыйдуць на акцыю, але дакладна можна сцвярджаць, што ўлады падрыхтуюцца да гэтай падзеі.

Любы пратэст у Беларусі ўспрымаецца ўладамі крайне нервова. Людзей затрымліваюць ці складаюць пратаколы за цалкам мірныя акцыі — адзіночныя пікеты ці раздачы ўлётак. Той жа, хто адважыўся на пратэст у больш-менш радыкальнай форме (ці быў беспадстаўна абвінавачаны ў гэтым), адразу абвяшчаецца «ворагам народу» і адпраўляецца ў турму на максімальна магчымы тэрмін.

У апраўданне жорсткіх пакаранняў як дзеячы МУС, так і прапагандысты БТ актыўна выкарыстоўваюць аргумент: маўляў, так робіцца ва ўсіх краінах свету, у тым ліку «заходніх дэмакратыях», гэта «нармальная сусветная практыка». І звязваюць на традыцыйныя для Еўропы бунты левай моладзі і анархістаў альбо мігранцкія хваляванні. Тэлесюжэты на гэты конт суправаджаюцца відэакадрамі з разгону акцый Occupy ці антыглабалісцкіх пратэстаў.


Акцыя пратэсту ў Грэцыі

Але ці так гэта насамрэч?

## Германія

Адзін з нядаўніх выпадкаў масавых беспарадкаў у Еўропе: 9 ліпеня, падчас антыджэнтрыфікацыйнай маніфестацыі ў берлінскім раёне Фрыдрыхсхайн і сутыкненняў, пацярпелі 123 паліцыянты. 86 пратэстоўцаў былі затрыманыя.

Хваляванні адбыліся на глебе пратэсту супраць камерцыялізацыі раёну. Спрэчка паміж моладдзю і кіраўніцтвам горад распачалася за будынак на Рыгаэр-штрасэ, 94, у якім знаходзіцца адзін з апошніх сквотаў, што засталіся ў Берліне.

Калектыў сквоту, які так і называецца — «Rigaer94», лічыць заняты будынак апошнім бастыёнам супраць «капіталізацыі» публічнай прасторы ў Берліне. Жыллёвая прастора ў буйных гарадах, асабліва ў сталіцах, няспынна даражэе, пранікненне

**У Беларусі любая вулічная пратэстная актыўнасць крыміналізаваная, бо разглядаецца — ні больш, ні менш — як спроба абрынуць увесь дзяржаўны апарат і асабіста яго кіраўніка**

ў яе тых самых «япі», як і джэнтрыфікацыя, робіцца непазбежнасцю. Адпаведна, непазбежнасцю робіцца і канфлікт розных груп насельніцтва. Бізнес-колы хочуць інвеставаць у дарагую і прэстыжную нерухомасць, мясцовыя ўлады іх у гэтым падтрымліваюць, і тыя, і другія зусім не радыя таму, што ў «месцы-дзе-магла-б-быць-іх-рэклама» нейкія левакі прасоўваюць зусім не талерантныя да капіталізму ідэі.

У хваляваннях прынялі ўдзел каля 3500 чалавек — пераважна моладзь і пераважна прадстаўнікі левых рухаў. Улады мабілізавалі супраць іх 1800 паліцыянтаў. Пратэстоўцы кідалі ў праваахоўнікаў камяні, бутэлькі і піратэхніку, білі вітрыны крамаў, падпальвалі машыны. Як паведамляла BBC, многія мясцовыя жыхары былі салідар-


Пратэст у Кёльне

# Еўропа і палітычны гвалт:

Мікалай ДЗЯДОК

**Дзе палягаюць межы дазволенага ў палітычнай дзейнасці і як дэмакратыі Еўропы караюць тых, хто за іх выходзіць?**

Уладзімір Ульянаў за некалькі дзесяцігоддзяў да ўзнікнення дэмакратый сучаснага ўзору высунуў пастулат: «Дзяржава — апарат гвалту ў руках пануючага класу». Грамадзяніну, які ніколі не займаўся палітычнай дзейнасцю, гэтая цытата можа падацца пазбаўленай сэнсу. Аднак усё мяняецца, калі чалавек пачынае «займацца палітыкай». Бо гэта — вотчына дзяржавы, і тут яна выразна акрэслівае межы дазволенага і недазволенага. У тым ліку з дапамогай гвалту.

Беларускі рэжым палітолагі адносяць да аўтарытарных, дзе гвалт дзяржавы над палітычнымі апанентамі — з'ява сістэмная. У краінах заходніх дэмакратый панятак палітычных рэпрэсій мае зусім іншае гучанне.

## Гвалт гвалту розніца

Першае, што кідаецца ў вочы, — залежнасць ступені рэпрэсій ад масавасці пратэстных дзеянняў: чым больш людзей удзельнічае ў нейкім гвалце, тым меншая адказнасць. Прыклады гэтага можна сустрэць амаль у кожным бунце моладзі ў Еўропе. Тыя, хто ўдзельнічае ў гарадскіх беспарадках, амаль ніколі не атрымліваюць буйныя тэрміны зняволення — большасць абыходзіцца штрафамі ці нашымі аналагамі адміністратыўнага арышту.

Прычын можна назваць некалькі. Першая, умоўна гістарычная — у Еўропе такія здарэнні не з'яўляюцца нечым дзіўным, яны адбываліся і адбываюцца, бадай, з самага ўзнікнення нацыянальных дзяржаў. Больш за тое — сённяшнія палітычныя сістэмы фактычна абавязаны сваім узнікненнем менавіта «несанкцыянаваным сходам» і «дэструктыўным дзеянням» (калі карыстацца афіцыёзнай беларускай тэрміналогіяй) незадаволеных мас: ад Вялікай Французскай рэвалюцыі і «Вясны народаў» да «Аксамітавай рэвалюцыі» і падзення Берлінскай сцяны.

Другая прычына — кан'юнктурная: палітычныя эліты Захаду ў немалой ступені залежаць ад грамадскай думкі. А яна ніколі не падтрымае жорсткіх рэпрэсій, кшталту пасадак на доўгія тэрміны, супраць палітычных груп, нават калі погляды гэтых груп не падзяляюцца большасцю. Вальтэраўскі пастулат: «Я не згодзен ні з адным вашым словам, але гатовы загінуць за ваша права гэта казаць» па-ранейшаму мае вагу ў грамадскай свядомасці еўрапейцаў, нават калі пратэстоўцы не толькі «гавораць». А кожным палітычным пралікам улады з задавальненнем скарыстаецца апазіцыя. Гэта таксама адыгрывае сваю ролю.

## Гвалт не роўны тэрору

Усё інакш, калі справа датычыцца ўзброеных дзеянняў, асабліва арганізаваных. Да прыкладу можна ўзяць ірландскіх нацыяналістаў: PIRA (Provisional Irish Republican Army — Часовая Ірландская рэспубліканская армія) і INLA (Irish National Libration Army — Ірландская нацыянальна-вызваленчая армія). Сотні іх сяброў знаходзіліся ў брытанскіх турмах на пажыццёвым зняволенні, і знаходзіліся б па сёння, калі б не «Пагадненне добрай пятніцы» (Good friday agreement) 1998 года, згодна з якім у абмен на спыненне агню ў Паўночнай Ірландыі праводзіліся палітычныя рэформы, а ўсіх вязняў выпусцілі на волю.

Не так пашчасціла баскскай арганізацыі ETA — больш за 350 яе ўдзельнікаў зараз знаходзяцца ў турмах Іспаніі, Францыі і Швейцарыі.

Грэцыя апошніх гадоў — арэна барацьбы паўстанцкіх анархісцкіх груповак з уладай. У пачатку ліпеня гэтага года былі асуджаныя сябры арганізацыі «Змова вогненных ячэек» — нігілісты, прыхільнікі так званай інсурэкцыянісцай плыні ў анархізме. Іх абвінавачвалі ў закладанні выбухоўкі прыстасавання ў падатковым офісе, адпраўку пасылак з бомбамі ў паліцэйскі пастарунак і дом суддзі, падрыхтоўку ўзброеных уцёкаў з турмы, захоўванне агнястрэльнай зброі, ручных гранатамётаў і выбухоўкі. Усё гэта — у мэтах «падрыву сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага жыцця краіны». Дзесяць удзельнікаў арганізацыі атрымалі па 115 гадоў зняволення кожны.



Пры гэтым трэба адзначыць, што ў турмах грэчаскія барацьбіты з капіталізмам працягваюць палітычную дзейнасць: на адмысловых сайтах можна чытаць іх заявы аб палітычнай сітуацыі, у турмах ствараюцца прафсаюзы, каб дамагчыся паляпшэння ўмоў утрымання, праводзяцца галадоўкі і акцыі пратэсту. Адбываюцца нават сутычкі паміж палітычнымі групоўкамі, якія варагуюць паміж сабой.

Падобная сітуацыя ў Германіі. Яе можна ацаніць на прыкладзе аднаго з самых вядомых палітычных вязняў — Томаса Мейера Фолька, які знаходзіцца ў турме з 1996 года за рабаўніцтва банку ў палітычных мэтах і «запужванне і зняважу суддзі». Свой тэрмін ён даўно адбыў, аднак ужо некалькі разоў зняволенне было падоўжана на падставе «закону аб прэвентыўным зняволенні» — аналагам беларускага артыкула КК 411. Гэты закон быў прыняты ў Германіі за нацыстамі, у 1933 годзе, і згодна з ім асуджанага, у дачыненні да якога ёсць падазрэнні, што ён можа працягнуць злачынную дзейнасць, могуць утрымліваць у турме колькі заўгодна і пасля заканчэння тэрміну. 45-гадовы Фольк адбыў за кратамі ўжо 20 гадоў і не ведае, калі будзе вызвалены: кожны раз суд

# практыка?

ныя з пратэстоўцамі. Паліцэйскае кіраўніцтва назвала гэтыя беспарадкі «самымі буйнымі ў Берліне за апошнія пяць гадоў».

Якая ж рэакцыя нямецкіх уладаў на антыджэнтрыфікацыйны бунт? Франк Хенкель, міністр бяспекі Берліна, асудзіў «вакханалію гвалту левых экстрэмістаў». Мэр Берліна Міхаэль Мюлер заклікаў мясцовых жыхароў і паліцыю «сесці за стол перамоў і абмеркаваць патрабаванні абодвух бакоў» (!), правацэнтрысты з ліку хрысціянскіх дэмакратаў заявілі, што паліцыя была занадта мяккай з дэманстрантамі.

Згодна «The Wall Street Journal», толькі трое (!) з 86 затрыманых у тую ноч прыцягнуты да адказнасці «па падазрэнні ва ўдзеле ў грамадскіх беспарадках».

### Данія

Аналагічны выпадак адбыўся ў 2007 годзе ў Капенгагене. Тады ўлады высялялі Дом моладзі: будынак выкупіла хрысціянская абшчына, але анархісты не спяшаліся яго аддаваць.

Высяленне цягнулася 5 дзён (прымяняліся верталёты і слезацечны газ), падчас бунтаў было арыштаваныя больш за 750 чалавек. У паліцыі не хапала месца для ўтрымання арыштаваных, з турмаў вызвалілі побытавых крымінальнікаў, а таксама вывозілі арыштаваных у іншыя гарады.

Шэраг экспертаў (напрыклад, прафесар Роскільдскага ўніверсітэта Ларс Дэншык) сцвярджалі, што выкарыстанне антытэрарыстычнага спецназу ў гэтым канфлікце з'яўлялася празмерным сродкам і ставіла за мэту трэніроўку гэтага атраду, бо «сапраўдная небяспека для людзей адсутнічала».

Суд над арыштаванымі адбыўся ў снежні 2008 года. З 750 затрыманых перад судом апынуліся 15 чалавек, якія знаходзіліся ў Доме моладзі падчас высялення. Пры вобшуку ў іх знайшлі нелегальную піратэхніку і «кактэйлі Молатава». Пратэстоўцы атрымалі ад 9 да 15 месяцаў турмы. Параўнаем гэта з тэрмінамі асуджаных за «Плошчу–2010»: ад 3 да 6 год зняволення за, нібыта, «удзел у масавых беспарадках», і ў чыёй справе фігуравалі выключна «пластыкавыя бутэлькі з кактэйлем Молатава».

### Вялікабрытанія

Яшчэ больш сур'ёзным і цяжкім для ўладаў быў бунт, які адбываўся ў Брытаніі 6–11 жніўня 2011 года. Прычынай яго сталася забойства паліцыянтамі ў Лондане 29-гадовага Марка Дагана. Пратэсты хутка перакінуліся на другія гарады і перараслі ў маштабныя беспарадкі, якія ахапілі ледзьве не ўсю краіну і суправаджаліся падпаламі, бойкамі з паліцыяй, рабаваннямі. 5 чалавек загінулі, 186 паліцыянтаў пацярпелі, нанесеная шкода ацэньвалася ў 200 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Да 15 жніўня было арыштавана больш за 3000 чалавек, з якіх больш чым 1000 былі прад'яўленыя абвінавачванні.

Розныя эксперты называлі розныя падставы бунту: хтосьці рабіў акцэнт на расізме з боку паліцыі, хтосьці — на класавай дыскрымінацыі і беднасці, хтосьці — на падзенні маралі і бандыцкай культуры імігранцкіх прыгарадаў Лондана.

У выніку судовых разглядаў 30% абвінавачаных былі вызваленыя (параўнанне з Беларуссю, зноў жа, просіцца само сабой). Сярэдні тэрмін зняволення арыштаваных склаў... 5 месяцаў. І англічане яшчэ скардзяцца: арышт на 25% даўжэйшы, чым у сярэднім!

Зразумела, што мы бярэм пад увагу толькі «ўдзельнікаў масавых беспарадкаў», а не тых, хто быў асуджаны за забойствы.

### Беларусь

Беларусь бадай што не перажывала пратэсты і сутыкненні, падобныя на берлінскія, і яшчэ ніколі не ведала бунтаў накшталт лонданскага. Але гэта толькі падкрэслівае асіметрычную рэакцыю нашых уладаў на любы радыкальны пратэст. Прычыны «хваравітай» рэакцыі на масавыя выступленні хаваюцца, на мой погляд, не ў структуры МУС, не ў жаданні міліцэйскіх чыноў выслужыцца, не ў менталітэце беларусаў, і нават не ў нашым заканадаўстве аб мітынгах і масавых сходах.



Акцыя 25 жніўня 2016 года

Справа ў тым, што еўрапейскія пратэсты не нясуць фатальнай небяспекі для ўлады, не пагражаюць кіруючым колам і «правілам гульні», якія ўсталяваліся ў дзяржаве. Таму і разглядаюцца яны не як замах на дзяржаўны лад, а як парушэнне грамадскага парадку: дэ-факта — дробнае хуліганства. У краінах ліберальнай дэмакратыі падобныя бунты з'яўляюцца, у пэўнай ступені, структурнай з'явай і ледзь не часткай палітычнай культуры — напэўна, гэта вынікае з права на пратэст, замацаванага ў заходняй палітычнай філасофіі яшчэ Русо. Адпаведна, адсутнасць фатальнай пагрозы палітычнай сістэме і персанальна яе кіраўнікам робіць бессэнсоўнымі жорсткія рэпрэсіі супраць дэманстрантаў і бунтароў.

У Беларусі амаль любая вулічная пратэстная актыўнасць крыміналізавана, бо разглядаецца — ні больш, ні менш — як спроба абрынуць увесь дзяржаўны апарат і асабіста яго кіраўніка. Пакуль прынцып нязменнасці элітаў будзе заставацца цэнтральным слупам беларускай сістэмы, тэндэнцый да змены такога становішча бачна не будзе. Як бы мы ні марылі пра нейкую лібералізацыю.

# межы дазволенага

прыходзіць да высновы, што ён яшчэ недастаткова выправіўся.

Па законе аб прэвентыўным зняволенні сёння ў Германіі адбывае бестэрміновае пакаранне каля 500 вязняў.

Аналагічны закон існуе і ў Італіі. Для асуджаных за сувязь з мафіяй, разбой і злачынствы, якія «падрываюць канстытуцыйны лад», зняволенне можа быць спынена толькі тады, калі вязень ідзе на супрацоўніцтва з уладай. Альбо памірае.



### Што было б з нашымі анархістамі?

З 2009 па 2010 год у Беларусі адбыліся акцыі, якія дзяржпрэса назвала «хуліганствам з элементамі тэрору»: падпал аддзялення «Беларусбанка», спаленне машыны расійскага пасольства, атака «кактэйлямі Молатава» на мінскі ІЧУ і спроба падпалу аддзялення КДБ у Бабруйску. Абвінавачаныя па гэтых эпізодах атрымалі па 7–8 гадоў зняволення.

У Еўропе гэтыя дзеянні ўвогуле не прызналі б крыміналам. Напрыклад, анархісцкая група «Rouvikonas» (Рубікон), якая дзейнічае ў Грэцыі, балансуючы на мяжы паміж тэрорам і радыкальным акцыянізмам. На яе рахунку захоп будынку тэлебачання падчас прамога эфіру, разгром офісу даўгавой кампаніі (мэтанакіравана знішчаліся лічбавыя носьбіты, на якіх захоўвалася інфармацыя аб пазыках грамадзян), і нават узброеная дэманстрацыя супраць наркамафіі ў афінскім раёне Экзархія. Але ўсе рэпрэсіі дзяржавы, якія на сябе адчула гэтая група, — вобшукі па падазрэнні ў захоўванні зброі ў трох яе сяброў. Ніводнаму чалавеку абвінавачанне выстаўлена не было.

Палітычныя матывы не заўжды з'яўляюцца абцяжарваючымі абставінамі. Паказальны выпадак Эмы Шэпард, радыкальнай абаронцы прыроды, якую судзілі ў брытанскім Брысталі ў 2015 годзе. Дзяўчына выклала самаробныя стужкі з шыпамі ля паліцэйскага пастарунку, некалькі патрульных машын прабілі колы. Падчас працэсу суддзя выказаў павагу да матываў — безумоўна палітычных — актывісткі, і да яе імкнення абараняць найбольш безабаронных, хаця і заўважыў, што для гэтага яна абрала занадта «арыгінальныя», як ён выказаўся, метады. Фактычна, палітычны матыў быў прызнаны змякчальнымі абставінамі. Суд вынес даволі мяккі прысуд: два гады вязніцы.

Не менш дзіўнай можа падацца і судовая сістэма згаданай Італіі. Нярэдка вязень едзе ў суд па абвінавачанні ў тэрарызме, а там гэты артыкул з яго здымаюць. Альбо, калі ў выніку яго дзеянняў ніхто не загінуў, даюць смешныя — па беларускіх мерках — тэрміны. Сведчанне таму — справа ўдзельнікаў кампаніі супраць будаўніцтва высокахуткаснай чыгуначнай магістралі. Гэтая кампанія (NO-TAV) існуе ўжо больш за 20 гадоў, і яе ўдзельнікі не спыняюцца на выключна законных метадах супраціву. У 2013 годзе чацвёра анархістаў былі абвінавачаныя ў сабатажы будаўніцтва, інтэрпрэтаваным як «атака з тэрарыстычнымі метадамі», ужыванні выбуховых прыстасаванняў і захоўванні боепрыпасаў. У выніку суд даў актывістам... 3,5 гады зняволення кожнаму і поўнае апраўданне па «тэрарыстычным» артыкуле. Зняволенне, дарэчы, яны адбывалі ва ўмовах... хатняга арышту!

Гэта яскравыя прыклады, якія пераконваюць, што нават у Еўрасаюзе падыход да ліквідацыі палітычных пагроз з боку радыкалаў антыаўтарытарнага кірунку — розны. Прычыны гэтага, імаверна, хаваюцца ў гістарычным кантэксце, агульнай палітычнай культуры грамадзян і асабліва службовых асоб, ступені незалежнасці судовай сістэмы.

### Заканадаўства блізкае, прымяненне рознае

Як казалася вышэй, еўрапейскае заканадаўства не варта ідэалізаваць. Аднак, калі праддзяржаўныя палітолагі ці прапагандысты з БТ, каб апраўдаць чарговыя рэпрэсіўныя захады, кажуць пра жорсткае еўрапейскае заканадаўства супраць тэрарызму, і што гэта «нармальная сусветная практыка», — дапускаюць вялікую лагічную памылку.

Заканадаўства адносна экстрэмізму, тэрарызму і меркаваных злачынцаў-рэцыдывістаў у Беларусі амаль такое ж жорсткае, як у Еўропе — правапрымяняльная практыка адрозніваецца. У большасці краін Еўропы тэрарызмам і экстрэмізмам лічацца выключна тыя дзеянні, якія вядуць да смерці людзей, ці тыя, у якіх ужывалася зброя. У Беларусі гэтая ўмова не абавязковая.

За знішчэнне маёмасці на палітычнай глебе ў краінах Еўропы, як і ў Беларусі, пакаранні даволі суровыя, аднак там папраўчае заканадаўства дазваляе вязням выйсці на волю нашмат раней, чым гэта ўказана прысудам. У той жа Грэцыі асуджаныя нават на некалькі пажыццёвых тэрмінаў ужо праз пару гадоў могуць атрымліваць адпачынак і праводзіць яго дома. Беларускія палітвязні, якія не вылазяць са штрафнога ізалятару, пра гэта могуць толькі марыць...

Суды ў Еўропе выдатна асэнсоўваюць, што з'яўляецца гвалтоўным, а што негвалтоўным супрацівам. Яны адрозніваюць гвалтоўныя дзеянні, якія пашкодзілі маёмасць, але не прычынілі шкоды людзям, ад гвалтоўных дзеянняў, у якіх ёсць пацярпелыя. І «пацярпелых ад гвалтоўных дзеянняў» — ад накіраваных на вялікую колькасць ахвяр тэрарызму і тэрарыстычных груповак. У нас жа любое дзеянне «з элементамі гвалту» — нават калі ніхто не пацярпеў, і шкода была нанесеная нязначная, — караецца па вышэйшай планцы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Піва «пад хмаркай» дазволяць?

Фракцыя польскай правапапулісцкай партыі «Kukiz'15» прапанавала легалізаваць у краіне ўжыванне піва на вуліцах. На першы погляд, навіна з шэрагу прыколаў. Аднак чым больш спрэчак на гэты конт, тым больш глабальнай падаецца сітуацыя. Па-першае, палякаў пазбавілі магчымасці піць піва на вуліцы, або, як тут любяць казаць, «пад хмаркай», у 1982 годзе, калі ў краіне панавала дыктатура Ярузельскага. Гэта быў адзін з антыалкагольных захадаў, якія мусілі ўзняць працоўную дысцыпліну і пашырыць палітычную лаяльнасць да дыктатуры сярод пэўных частак грамадства (касцёл, жанчыны). Пасля краху камунізму антыалкагольнае заканадаўства лібералізавалі, аднак пункт пра піва пакінулі. Такім чынам, як кажуць у фракцыі, у дэмакратычнай Польшчы застаўся прававы рэлікт дыктатуры. Па-другое, практычна ва ўсіх краінах ЕС ужыванне алкаголю на вуліцы не забараняецца, што не толькі ўздымае пытанне наконт еўрапейскасці палякаў, аднак часам выстаўляе іх вельмі смешна. Так, днямі польскія турысты ў Партугаліі спрабавалі пранесці алкаголь у самалёт, паколькі не паспелі выпіць яго раней. Небаракаў арыштавалі, хаця па мясцовых законах ніхто не забараняў ім спакойна асушыць свае пляшкі перад тым, як зайсці ў тэрмінал. Такія аргументы, калі верыць прадстаўнікам фракцыі «Kukiz'15», пераканалі шматлікіх дэпутатаў, і піццё ў Польшчы «пад хмаркай» легалізуюць.

**Паводле польскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Прарок быў азербайджанцам

Лідар азербайджанскай партыі «Муасір Мусават» Хафіз Гаджыеў заявіў, што мусульманскі прарок Мухамед быў па нацыянальнасці азербайджанцам. Гэтым гістарычным адкрыццём Гаджыеў падзяліўся, калі размаўляў з вучнямі адной правінцыйнай сярэдняй школы. «Дзеці, у вас цячэ кроў прарока. Усе вы — маленькія пракрокі», — сказаў Гаджыеў вучням. Такога кшталту вольныя трактоўкі Карану ў ісламскай краіне мелі б мець сур'ёзныя наступствы, аднак улада заплюшчыла на гэта вочы. Прычым, не ўпершыню. Летась Гаджыеў заклікаў абліваць кіслатой ногі тых азербайджанскіх мужчын, якія носяць шорты. Відавочна, што абыякавасць уладаў да выхадак Гаджыева шмат у чым тлумачыцца палітычнымі гульнямі рэжыму Аліева. З аднаго боку, наяўнасць у краіне партыі накшталт «Муасір Мусават» дапамагае рабіць выгляд партыйнай канкурэнцыі. З іншага боку, мякка кажучы, неадэкватны стыль «новых мусаватыстаў» адштурхоўвае ад апазіцыі нармальных людзей.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### УКРАІНА. Юбілей грыўні

Ва Украіне адзначылі 20-ю гадавіну грашовай рэформы, у выніку якой з'явілася грыўня. З'яўленне 2 верасня 1996 года новай валюты, якая прыйшла на змену карбованцу, у свой час разглядалася як гістарычная падзея, прыкмета выхаду краіны з крызісу і нават самога існавання ўкраінскай дзяржавы. Той факт, што грыўня доўгі час была стабільнай, зрабіла такое пабліцісі кіраўніку Нацбанку Юшчанку, што той нават стаў прэзідэнтам. Казка пры грыўню скончылася прыкладна ў 2008 годзе, калі сусветны крызіс дайшоў да Украіны. Украінскія грошы за месяц згубілі трыццаць працэнтаў вартасці. Апошнія падзеі (вайна, падзенне ВУП) яшчэ больш падкасілі «гетманаў» (так называюць грыўню ў народзе праз выяву на банкнотах розных гетманаў). Цікава, што некаторыя эканамісты з нагоды дня нараджэння грыўні прапануюць увогуле адмовіцца ад наяўных грошай. Зараз 65 працэнтаў пакупак ва Украіне робіцца праз банкаўскія карткі, і, на думку некаторых, няцяжка давесці гэтую лічбу да ста працэнтаў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Спыніце вірус XXI стагоддзя

«New York Times» заклікала федэральны ўрад тэрмінова распрацаваць праграму барацьбы супраць вірусу Зіка, які на днях дабраўся да паўднёвых штатаў краіны. Яшчэ ўчора лічылася, што вірус пагражае краінам, дзе водзяцца маскіты — пераносчыкі вірусу, які выклікае захворванне, характэрнымі сімптомамі якога з'яўляюцца стома, галаўны і суставы боль, ліхаманка, апуханне суставаў. Між тым з Паўднёвай Амерыкі, адкуль вірус Зіка прыйшоў у ЗША, інфармуюць пра тое, што ў свой час ігнаравалі магчымасць вірусу распаўсюджвацца праз сексуальныя кантакты. Такая інфармацыя была і раней, аднак асноўным пераносчыкам лічыліся камары і маскіты. Новыя дадзеныя азначаюць, што зона рызыкі пашыраецца на паўночныя рэгіёны планеты, уключаючы Злучаныя Штаты і Еўропу. «Катэгорыя маладых людзей, якія жадаюць мець дзяцей, пад пагрозай», — робіць рэзюме выданне. Калі яму верыць, некаторых амерыканцаў, хто запланаваў мець дзіця, ужо апанавалі панічныя настроі. У фінале аўтар артыкулу заклікае адміністрацыю тэрмінова распрацаваць вакцыну супраць віруса Зіка, інакш можна атрымаць СНІД XXI стагоддзя.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.focus.ua

# Ад Смаленску да Валыні

*Алег НОВІКАЎ*

**На экранах польскіх кінатэатраў 8 верасня пачаўся пракат мастацкай стужкі «Смаленск», якая яшчэ да прэм'еры палярызавала грамадства. І, відавочна, будзе мець міжнародны рэзананс.**




«Добрыя змены» — так іранічна называюць у Польшчы цяперашнія часы, калі краінай кіруе правая партыя «Права і справядлівасць» (PIS). Адлюстраваліся «добрыя змены» і ў свеце кіно. З'явіўся запыт на патрыятычныя карціны. Першай ластаўкай стаў фільм «Гісторыя Роя», які круцілі ў кінатэатрах увесну. Фільм праслаўляе аднаго з герояў пасляваеннага антыкамуністычнага падполля з так званых Żołnierze wyklęci (польск. «выклятыя жаўнеры»). Калі меркаваць па рэцэнзіях, фільм быў успрыняты неадназначна. Праўда, пра прыгоды Роя хутка забыліся.

А вось фільм «Смаленск» (рэжысёр Антоні Краўзе) такі лёс не чакае, якім бы мастацка слабым ні атрымаўся твор. Гэта тлумачыцца месцам тэмы смаленскай катастрофы ў міфалогіі сучасных польскіх правых. Смаленск стаў фішкай іх агітацыі ледзьве не адразу пасля авіякатастрофы ў красавіку 2010 года. Нагадаем, крушэнне польскага ўрадавага самалёта тады забрала жыцці часткі польскай эліты, уключаючы прэзідэнта Леха Качыньскага. На хвалі шоку ў правым сегменце грамадства ўзнік нават своеасаблівы дыскурс з уласнай лексікай і эстэтыкай. Адначасова ўздымаліся канспіралагічныя версіі. Атрымала папулярнасць ідэя пра штучны характар аварыі, за якой, быццам бы, маглі стаяць Масква і польскія лібералы — канкурэнты PiS.

Пасля трыумфу на выбарах 2014-га і прыходу да ўлады тэма Смаленску моцна прапісалася ў палітыцы ўраду. Напрыклад, з'явіўся так званы «смаленскі прызыў» — спіс ахвяр катастрофы, агучванне якога па распараджэнні міністра абароны стала абавязковым на ўсіх урачыстасцях, у якіх прымае ўдзел польская армія.

Культ ахвяр Смаленску не падабаецца ліберальнай фракцыі грамадства. Дастаткова ўзгадаць скандал, які меў месца падчас апошніх урачыстасцяў з нагоды гадавіны Варшаўскага паўстання: тады таксама планавалася зачытаць «смаленскі прызыў». Ветэраны паўстання, а таксама немалая частка польскага грамадства, абурыліся гэтым рашэннем. Некаторыя з паўстанцаў дэманстратыўна адмовіліся ад традыцыйнай сустрэчы з кіраўніком дзяржавы. Урэшце, Мінабароны і арганізатары знайшлі кампраміс, аднак у цэлым тэма засталася палітызаванай.

Прэм'ера фільма Краўзе зноў вяртае тэму Смаленска ў эпіцэнтр польскіх грамадскіх дэбатаў. Што трошкі дзіўна, бо фабула стужкі вядомая даўно. Стваральнікі фільма не хаваюць, што намагаюцца мастацкімі сродкамі данесці версію пра невыпадковы характар катастрофы. У цэнтры карціны гісторыя адной журналісткі (акторка Ана Самусёнэк), якая спрабуе разабрацца ў таямніцы смаленскай катастрофы і нечакана выходзіць на след расійскіх арганізатараў дыверсіі. Апошнія, маўляў, хацелі пакараць Леха Канчыньскага за яго місію ў Грузію падчас вайны 2008 года. Аналізуючы трэйлер карціны, можна зразумець, што, паводле аўтараў «Смаленску», супрацоўнікі спецслужбаў Расіі нейкім чынам пранеслі бомбу ў прэзідэнцкі самалёт. І яе выбух разбурыў самалёт у паветры.

Хаця ў фільме кажуць выключна пра «расійскі след» у смаленскай трагедыі, рыкашэтам такая фармулёўка б'е і па польскай ліберальнай апазіцыі. Менавіта створаная ліберальным урадам камісія шукала прычыны аварыі, каб у выніку зрабіць вінаватымі польскіх лётчыкаў і кепскія ўмовы надвор'я. Палітычная накіраванасць фільма дазваляе лібералам аднесіць яго да класічных узораў прымітыўнага палітпропу.

Гэты тэзіс яны ілюструюць фактам, што самі акцёры «Смаленску», у тым ліку выканаўца ролі журналісткі, прызналіся: ім сорамна за ўдзел у здымках пасквіля. Былі выпадкі, калі некаторыя з тых, хто працаваў над стужкай, кулуарна прасілі Краўзе прыбраць іх прозвішчы з цітраў. У сваю чаргу, дырэктар карціны кажа, што шмат хто наўмысна сабатаваў вытворчасць фільма. З гэтай прычыны прэм'еру давялося адкласці на паўгода. Праўда, злыя языкі сцвярджаюць, што першапачатковы варыянт забракаваў асабіста прэм'ер-міністр.

За рэакцыяй палякаў на фільм будуць уважліва сачыць ва ўсім рэгіёне. Напярэдадні прэм'еры кіраўнік Мінабароны Польшчы наўпрост заявіў пра дачыненне Крамля да арганізацыі катастрофы. Такая катэгарычная заява з боку публічнай асобы была ўспрынятая як антырасійскі дэмарш і справакавала нейкага журналіста нават задаць міністру пытанне: «Ці гатовая Польшча да вайны?» Пазней афіцыёз інтэрпрэтаваў словы чыноўніка як гіпотэзу.

Цікава таксама, як ацэняць «Смаленск» у Кіеве. Антырасійскі падтэкст фільма не можа кампенсаваць частцы ўкраінскага палітыкуму хуткі, прызначаны на кастрычнік, рэліз фільму «Валынь». Стужка, якая распавядае пра этнічныя чысткі палякаў украінскімі нацыяналістамі ў 1943 годзе, можа пагоршыць адносіны паміж дзяржавамі. Яны і так пагоршыліся пасля таго, як польскі Сейм у ліпені прызнаў падзеі 1943-га актам генацыду. Ва ўкраінскі парламент пададзена ўжо некалькі сіметрычных законапраектаў пра заснаванне ва Украіне дня памяці па ўкраінцах — ахвярах польскай палітыкі пацыфікацыі ў 1920–1930-я гады і пасляваенных дэпартацый. Кіраўніцтва краіны намагаецца стрымліваць эмоцыі ў Вярхоўнай Радзе, аднак прагназаваць рэакцыю дэпутатаў на «Валынь» немагчыма.

# Калі лепш маўчаць...

Алег НОВІКАЎ

**Здаецца, яшчэ ніхто ў гісторыі не адважваўся публічна называць амерыканскага прэзідэнта «сынам путаны». Якімі будуць наступствы для аўтара выказвання — філіпінскага прэзідэнта Радрыга Дутэртэ?**



Фота www.twitter.com

Праўда, Радрыга ўжо паспеў папрасіць прабачэння за сваё выказванне, і нават выказаў надзею на хуткую сустрэчу з амерыканскім калегам. Сваю тыраду ён заклікае разглядаць як нейкую выпадковасць. Маўляў, не змог стрымаць эмоцыі, калі даведаўся, што Вашынгтон, парушаючы суверэнныя правы філіпінцаў, дазволіў сабе крытыкаваць і інструктаваць легітымны філіпінскі ўрад.

Сапраўды, у Белым доме (і не толькі там) незадаволеныя. Там у шоку ад маштабнай паліцэйскай зачысткі, якую Дутэртэ праводзіць супраць вулічных гандляроў наркотыкамі. Яшчэ напярэдадні прэзідэнцкай інаўгурацыі ў ліпені палітык абяцаў пашырыць на ўсю краіну сваё ноўхаў барацьбы з наркамафіяй. Будучы доўгі час мэрам гораду Даваа-Сіці, ён стварыў напаўсакрэтную каманду спецназу, што без усялякіх прававых замарочак забівала вулічных наркадылераў. Трэба прызнаць, што такая тактыка сапраўды скараціла маштабы наркаманіі ў горадзе. Міф пра тое, што перамагчы наркамафію магчыма, шмат у чым спрыяў перамозе экс-бургамістра Даваа-Сіці ў прэзідэнцкай кампаніі 2016 года.

Перасеўшы ў крэсла прэзідэнта, Дутэртэ аддаў загад пачаць крыжовы паход супраць наркотыкаў. Паход толькі пачаўся, але яго першыя вынікі не пакідаюць абыякавымі. Толькі за першыя 20 дзён жніўня было забіта 712 чалавек, якіх проста падазравалі ў дачыненні да нелегальнага продажу наркотыкаў. Прэзідэнт ацаніў такія вынікі як «поспех» і заклікаў паліцэйскіх дзейнічаць у тым жа рэчышчы. Варта нагадаць, што падчас выбарчай кампаніі Дутэртэ прасіў у народа ўсяго шэсць месяцаў на тое, каб высекчы ўвесь філіпінскі наркасектар пад корань.

Энтузіязм філіпінскіх чыноўнікаў шакуе Захад. Там запатрабавалі ад Манілы правесці дэталёвае следства па кожным забітым «наркагандляры». Такое патрабаванне і справакавала Дутэртэ на той самы выраз, што выклікаў цяперашні дыпламатычны скандал.

Нягледзячы на прабачэнне Манілы, Барак Абама адмовіўся ад запланаванай сустрэчы з новым філіпінскім гарантам у межах сустрэчы кіраўніка ЗША з калегамі з азіяцкіх дзяржаў. І такая халодная рэакцыя ў чымсьці зразумелая.

Рэспубліканская апазіцыя ўжо выкарыстала гісторыю з «сынам путаны» ў якасці ілюстрацыі таго, як нізка каціруецца аўтарытэт Злучаных Штатаў у цяперашнія часы адміністрацыі Абамы. «Большасць філіпінцаў сытыя эксцэнтрыкамі з Белага дому. Каментар Дутэртэ быў не экспромтам, а наўмысным — гэта было шчыра. Абама — няўдалы прэзідэнт», — піша адно з кансерватыўных выданняў.

З іншага боку, вельмі моцна ціснуць на Дутэртэ Вашынгтону таксама небяспечна. Праблема наркаманіі вельмі важная для краіны. Філіпіны — рэкардсмен па спажыванні наркотыкаў у Азіі. Паводле ацэнак ААН, прыкладна два працэнты насельніцтва ўжываюць атруту. Нелегальны наркабізнес, відавочна, спрые агульнаму росту крыміналу, шэраму сектару, карупцыі. Крытыка антынаркатычнай аперацыі з боку Вашынгтону незразумелая простаму насельніцтву. Дарэчы, шэраг філіпінскіх суддзяў зрабілі заяву, што гатовыя даць кіраўніку сваёй дзяржавы «ліцэнзію на забойства».

Наўрад ці Вашынгтон зацікаўлены ў росце антыамерыканізму на Філіпінах — праз геапалітычныя актуаліі. Філіпіны — стары яблык разладу паміж Вашынгтонам і Пекінам. Канфлікт за акваторыю Паўднёва-Кітайскага мора яшчэ больш узняў стаўкі.

А добрая глеба для антыамерыканскіх і ксенафобскіх забабонаў на Філіпінах у наяўнасці. Тут яшчэ памятаюць пра тое, як Вашынгтон падтрымліваў дыктатуру Фердынанда Маркаса. Не падабаецца шматлікім філіпінцам і тое, што ў Амерыцы папулярны імідж іх краіны як нейкага публічнага дому. Гэты сегмент грамадства «на ўра» сустракае антыамерыканскія выхадкі прэзідэнта. І, магчыма, Дутэртэ сам адчувае, што можа гуляць на падобных тэмах. Перад тым, як ён ахарактарызаваў Абаму «сынам путаны», Дутэртэ назваў пасла ЗША «сынам гея ад прастытуткі».

У такой сітуацыі аналітыкі раяць Беламу дому быць вельмі эластычным у дачыненні да Манілы. Дамінуючая думка — праз дыпламатычныя каналы трэба нагадаць Дутэртэ пра тое, што менавіта Вашынгтон дапамагае часткова ўтрымліваць і трэніраваць філіпінскіх сілавікоў. Быццам бы, гэта прымусіць Дутэртэ не рабіць экстраардынарных крокаў. Схема, нібыта, правільная, аднак да канца ўсё ж не зразумела, як можна мецъ справу з палітыкам, які дапускаў на твой адрас такія выказванні. Нават за менш брутальныя словы ў мінулыя часы абвяшчалі войны.

Да таго ж нікому не зразумела, якім чынам будуць рэагаваць на апісаныя крокі Вашынгтона ў камандзе Дутэртэ. У тым ліку таму, што падобная лексіка — вельмі важная частка ягонага палітычнага стылю. Увесну каментар Дутэртэ адносна згвалтавання ў Даваа-Сіці 14-гадовай дзяўчынкі выклікаў буйны скандал. Дутэртэ пашкадаваў, што не заняўся гэтым сам. Адным словам, пра Філіпіны і іх новага прэзідэнта мы яшчэ дакладна пачуем.



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Хорст Зеехофер



Прэм'ер-міністр Баварыі, лідар партыі «Хрысціянска-сацыяльны саюз» (баварскі партнёр урадавай партыі хрысціянскіх дэмакратаў), які лічыцца галоўным апанентам Меркель у кансерватыўным лагеры, выкарыстаў правал хрысціянскіх дэмакратаў у зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. На тых зямельных выбарах 4 верасня ХДС атрымаў рэкордна нізкія 19 працэнтаў, і самае страшнае — прапусціў наперад правапапулісцкую «Альтэрнатыву для Германіі» (21 працэнт), якая ўпершыню ўдзельнічала ў выбарах.

Як толькі былі абвешчаныя вынікі галасавання, баварац перайшоў у атаку на канцлера Ангелу Меркель, якую даўно крытыкуе за міграцыйную палітыку. У сваіх тэзісах, апублікаваных 5 верасня ў газеце «Süddeutschen Zeitung», ён даводзіць, што менавіта крызіс з уцекачамі стаў прычынай фіяска ў Мекленбургу. Партыя, як піша Зеехофер, праз пытанне мігрантаў стала чужой для выбаршчыка і выклікала фрустрацыю сярод актыву. Пры гэтым аўтар дае зразумець, што Меркель ужо позна нешта спрабаваць выпраўляць, паколькі яе імідж вельмі сапсаваны.

На думку палітычных каментатараў, гэтая публікацыя — не што іншае, як шантаж кіраўніцтва хрысціянскіх дэмакратаў. Зеехофер фактычна патрабуе адстаўкі Меркель і таго, каб прэтэндэнты на пераемніка Меркель дамаўляліся з ім. Застаецца дадаць, што баварскі прэм'ер запатрабаваў ад канцлера ўнесці яснасць па найбольш вострых тэмах не пазней пачатку кастрычніка 2016 года.

### Натан Лоў



Малады дысідэнт з Ганконгу — лідар руху за аўтаномію гораду ад Пекіна і яго прыхільнікі нечакана для ўсіх годна выступілі на выбарах у мясцовы заканадаўчы савет, атрымаўшы 30 з 70 мандатаў.

Лічба салідная, з улікам таго, што самому Натану ўсяго 23 гады, а імя ён сабе зрабіў падчас вулічных пратэстаў у 2014-м падчас «рэвалюцыі парасонаў». Тыя пратэсты выклікалі супярэчлівыя ацэнкі нават сярод тубыльцаў, якія выступаюць супраць дыктату кітайскіх камуністаў, праз тое, што студэнты — ядро ўдзельнікаў «рэвалюцыі парасонаў», — блакавалі цэнтральныя вуліцы, што парушыла гарадскія камунікацыі. Аднак у выніку часовыя тэхнічныя праблемы шмат каму падаліся не такімі сур'ёзнымі на фоне адмоўных трэндаў у мясцовай эканоміцы. Паводле спецыялістаў, сёння эканоміка Ганконгу перажывае самыя кепскія часы пасля таго, як у 1997 годзе горад перайшоў пад кантроль кітайцаў. Таксама маглі паўплываць і рэпрэсіі супраць незалежнікаў, якія адбыліся напярэдадні выбараў — шэсць чалавек былі пазбаўленыя права быць кандыдатамі.

Прарыў сепаратыстаў у асамблею не абяцае кітайскім уладам нічога добрага, паколькі яны маюць колькасць дэпутатаў, патрэбную па закону для блакады пастаноў адміністрацыі, кіраўнік якой прызначаецца ў Пекіне. З іншага боку, у Лоў і яго прыхільнікаў не хапае мандатаў, каб правабіраваць рэферэндум аб незалежнасці. Хутчэй за ўсё, такая канфігурацыя прывядзе да цугцвангу ў працы савета. Эксперты не выключаюць, што Пекін будзе намагацца выкарыстаць крызіс, каб змяніць канстытуцыю тэрыторыі ў бок абмежавання правоў тубыльцаў.

### Максім Бурбак



Кіраўнік фракцыі партыі «Народны Фронт» ва ўкраінскім парламенце 6 верасня, у першы дзень адкрыцця восеньскай сесіі, заклікаў да радыкальнай чысткі ў Вярхоўнай Радзе, сярод дэпутатаў якой, на яго думку, хапае агентаў Крамля. Падставай для падобных высноў стала выкладзеная ў сеціва перапіска былой рэдактаркі навінаў тэлеканала «Інтэр».

Гэтая расійская грамадзянка, якая была дэпартаваная з Украіны ў лютым, аказваецца, кантактавала са спецслужбамі непрызнаных рэспублік Данбасу, і нават быццам каардынавала з імі фармат падачы інфармацыі на канале. Сустракаюцца ў той перапісцы прозвішчы некаторых з цяперашніх дэпутатаў, ад якіх Бурбак патрабуе здаць мандаты.

Праўда, апошнія кажуць, што кантактавалі з «Інтэрам» выключна як каментатары, і ў сваю чаргу звяртаюць увагу на тое, што «Народны фронт» калісьці заплаціў тэлеканалу салідныя грошы за палітычную рэкламу.

Паколькі вядучыя «Інтэру» яўна сімпатызавалі экс-рэгіяналам з «Апазіцыйнага блоку», таксама чуваць галасы, што варта пазбавіць мандата і арыштаваць аднаго з лідараў блоку, Сяргея Лёвачкіна, які да 2014 года кіраваў апаратам Януковіча і, як лічыцца, патаемна рыхтаваў Еўрамайдан.

Чым скончыцца цяперашняе «паляванне на ведзьмакоў», прагназаваць цяжка, аднак так ці інакш старт палітычнай восені ва Украіне аказаўся сапраўды вельмі гарачым.

# Родная душа

## Згадваючы Генадзя Бураўкіна



Сяргей ШАПРАН

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 32, 33**



**Юлія Якаўлеўна і Генадзь Мікалаевіч Бураўкін**

**30 лістапада 2006 г.** У Палацы мастацтва адбылася творчая вечарына Бураўкіна. Напісаўшы артыкул пра гэта, прапанаваў у газету «Экспресс-новости», але яго не ўзялі. Вось гэты тэкст:

На мінулым тыдні ў Палацы мастацтваў адбылася творчая вечарына паэта Генадзя Бураўкіна. Прысутныя віншавалі Генадзя Мікалаевіча са жнівеньскім 70-годдзем. Праўда, ніхто нават да апошняга моманту не мог з упэўненасцю сказаць, ці адбудзецца гэтая вечарына. Сам жа Генадзь Мікалаевіч ехаў на ўрачысты юбілей, прыхапіўшы сардэчныя лекі…

70-годдзе Генадзь Бураўкін адзначыў яшчэ ў жніўні на сваім лецішчы ў Крыжоўцы ў невялікім коле сяброў. Ідэя хоць і прыпозненая, але ўсё-такі павіншаваць любімага паэта, так бы мовіць, усім гуртом належыць народнай артыстцы Беларусі Зінаідзе Бандарэнцы. Аднак узнікла праблема з залай: адзінай установай, дзе быццам бы былі рады бачыць юбіляра і яго гасцей, аказаўся Палац мастацтваў. Але залу на дзвесце чалавек, калі спачатку давалі, дык затым быццам бы перадумалі. Ужо ў апошні момант з'явіліся чуткі, што адключаць электрычнасць. Тым не менш, у палове на сёмую зала была поўная. Калі ж з'явіўся сам Генадзь Бураўкін з жонкай Юліяй Якаўлеўнай, усе падняліся і віталі яго апладысментамі…

Адным з першых юбіляра павіншаваў ягоны сябра Рыгор Барадулін. «Шаноўнае спадарства, віншую вас са святам паэзіі, са святам паэзіі Генадзя Бураўкіна, — сказаў народны паэт Беларусі. — Генадзь Бураўкін — гэта цэлая эпоха ў нашым Адраджэнні. Там, дзе ён працаваў, была Беларушчына. Генадзь Бураўкін зрабіў беларускім тэлебачанне. Ён жа сваёй "Калыханкай" некалькі дзесяцігоддзяў калыхаў нашых дзяцей — будучых барацьбітоў за Беларушчыну. Генадзь Бураўкін у свой час зрабіў "Маладосць" лепшым і прэстыжным часопісам Беларусі, дзе выхоўваліся беларускія кадры паэзіі. Калі працаваў у ААН, ён першы падаў руку нашай эміграцыі літаратурнай. Там, дзе быў Бураўкін, была мудрасць і павага. Генадзь Бураўкін як паэт і як палітык шырокага маштабу — пасля Алеся Адамовіча і Васіля Быкава знакавая постаць у нашым беларускім жыцці. Вершы Генадзя Бураўкіна трэба чытаць душой. Ён не піша вершаў — ён іх выдыхае. Сам ён гаворыць: "Я іду да вершаў пешшу". І таму пажадаю яму, каб яшчэ доўга яго ногі ішлі да выдатных вершаў!»

У сваю чаргу, прадстаўнік славутага роду Гарэцкіх акадэмік Радзім Гарэцкі выказаў думку, здаецца, усіх прысутных: «Нядаўна "Наша Ніва" звярталася з пытаннем: каго вы лічыце народным паэтам ці пісьменнікам? Я б таксама некаторых назваў, і мне вельмі прыемна, што ўсе гэтыя людзі менавіта з Саюза беларускіх пісьменнікаў, а не з саюза імя сенатара нашага… (Смех, апладысменты.) Але перш-наперш, канешне, народны сярод паэтаў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. (Апладысменты.) Калі б гэтае званне не з гары нехта спушчаў, а спытаў бы ў народа, дык і народ у першую чаргу назваў бы нашага Генадзя Бураўкіна. І гэта было б справядліва і правільна. Пакуль будзе жыць наш народ беларускі, будзе жыць і паэзія Бураўкіна. І — жыве Беларусь!»

Да слова сказаць, у гэты вечар у Палацы мастацтваў сабраўся цвет беларускай інтэлігенцыі: пісьменнікі Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Валянцін Тарас, Сяргей Законнікаў, Валянцін Болтач, Анатоль Кудравец, Алесь Петрашкевіч, Міхась Тычына, Алесь Пашкевіч, мастакі Уладзімір Басалыга, Гаўрыла Вашчанка, Леанід Шчамялёў, Васіль Шаранговіч, Алесь Марачкін, Уладзімір Вішнеўскі, Рыгор Сітніца, Кастусь Качан, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, былы кіраўнік «Вольнай сцэны» Валеры Мазынскі, пробашч Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк, прыйшлі жонка Васіля Быкава Ірына Міхайлаўна і дачка Алеся Адамовіча Наталля — усіх не пералічыць.

Затое незаўважаным не засталося, каго ў гэты вечар чакалі і, галоўнае, хто абяцаў быць, але так і не прыйшоў. Праўда, мастацкі кіраўнік «Песняроў» Леанід Барткевіч не змог прысутнічаць па аб'ектыўнай прычыне — яго ансамбль павінен быў выступаць у Маскве, аднак напярэдадні Барткевіч запісаў гукавое віншаванне юбіляру. Разам з тым цяжкае ўражанне пакінула паведамленне аб адсутнасці кампазітара Ігара Лучанка, народных артыстаў Беларусі Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Эдуарда Зарыцкага. Са сцэны тлумачылася, што ў іх у гэты дзень раптам з'явіліся неадкладныя справы; у кулуарах гаварылі аб тым, што ўлада паабяцала ім праблемы — у тым выпадку, калі прыйдуць віншаваць паэта. І калі апошніх трох яшчэ можна зразумець (таму што ўсё іх жыццё і творчасць не толькі звязаны з гэтай зямлёй, але і напрамую залежаць ад непрадказальнага настрою ўлады), дык патлумачыць паводзіны народнага артыста СССР і да таго ж пенсіянера Ігара Лучанка…

> Беларусы павінны жыць доўга, каб пасля ўсё паправіць і яшчэ папрасіць прабачэння ў Бога і ў нашчадкаў за тое, што нарабілі

Некалі ў падобнай сітуацыі апынуўся і сам Бураўкін: калі толькі вярнуўся ў Беларусь з замежнай камандзіроўкі з Нью-Ёрку, яму прапанавалі нейкую высокую пасаду, але пры адной умове — калі ён прынародна адмовіцца ад сяброўства з Васілём Быкавым. Бураўкін адказаў на гэта: «Перадайце вашаму ўсёмагутнаму патрону, што на свеце няма і не будзе такіх пасад, за якія я мог бы прадаць сяброўства з Васілём». Сапраўды, кожны свой выбар робіць сам. Як, напрыклад, зрабіў яго цяпер старшыня Саюза мастакоў Уладзімір Басалыга, які і прымаў рашэнне аб прадастаўленні памяшкання для гэтай вечарыны. І хоць яшчэ не вядома, чым гэта можа скончыцца для саміх мастакоў, але ў адным яны могуць быць упэўнены — пляму на іх сумленні не застанецца.

А між тым, сам юбіляр, расхваляваны тымі падзеямі, якія папярэднічалі вечарыне, паехаў на яе, прыхапіўшы сардэчныя лекі. Але калі зайшоў у залу і ўбачыў, колькі людзей сабралася, раптам злавіў сябе на тым, што сэрца яго балець перастала…

**7 лістапада 2007 г.** Бураўкін, патэлефанаваўшы, паведаміў, што два дні таму ў яго сябра Валянціна Болтача знайшлі рак, і цяпер Генадзь Мікалаевіч вырашыў не спяшацца з успамінамі, бо Быкаў напісаў успаміны — і памёр ад раку, цяпер вось Болтач, які таксама толькі што скончыў працу над успамінамі. «Мяне гэта вельмі напалохала», — шчыра прызнаўся Бураўкін.

**22 лютага 2010 г.** Заходзіў да Бураўкіна, каб забраць яго ліст да Барадуліна, які больш за тыдзень таму з пнеўманіяй патрапіў у рэанімацыю, таму я папрасіў Бураўкіна і Някляева напісаць лісты, каб перадаць іх праз Валянціну Міхайлаўну Барадуліну. Аддаючы свой ліст, Генадзь Мікалаевіч зачытаў яго ўслых:

*«Дарагі, родны Рыгор!*

*Трымайся, дружа. Не забывай, што савецкія хворыя — самыя здаровыя ў свеце, і ты павінен пацвердзіць гэта сваім прыкладам.*

*Галоўнае — не сумнявайся, што ты не ўсё яшчэ зрабіў на нашай пакутнай зямлі, што партызанская цягавітая Ушаччына абавязкова дабавіць табе сілаў, а нядобразычліўцам і прыхадням ты не раз паспееш гукнуць: "Не дачакаецеся!"*

*Вельмі хачу неўзабаве пабачыць цябе вясёлым і аптымістычным, вострым на слова і дакладным на думку, якога даўно і аддана люблю.*

*Уся мая сям'я моліцца за цябе, а мама перадае табе шчырыя полацкія пажаданні выздараўлення і многіх год жыцця.*

*Абдымаю, браце.*
*Папраўляйся!*
*Твой Генадзь.*
*21.ІІ.2010 г.».*

**29 кастрычніка 2012 г.** Патэлефанаваў Бураўкіну — ён учора прыехаў з лецішча, але хутка паедзе зноў, бо ў мінулыя выхадныя моцны вецер зваліў сасну прама на дах дома. Сасну ўжо распілавалі, але цяпер трэба дах рамантаваць… Спытаў пра мае справы. Я распавёў, што нядаўна разам з Глебам Лабадзенкам былі ў Валянціны Уладзіміраўны, сястры Васіля Быкава, яна не думае, што дажыве да таго часу, калі ўсё гэта нарэшце скончыцца, калі не будзе Лукашэнкі. Дый я таксама, па шчырасці, сумняваюся, што дажыву да гэтага светлага часу. Бураўкін у адказ: «Кінь ты! Трэба доўга жыць…» І далей сказаў, як і на сваім 75-годдзі, што беларусы павінны жыць доўга, каб пасля ўсё паправіць і яшчэ папрасіць прабачэння ў Бога і ў нашчадкаў за тое, што нарабілі.

**3 сакавіка 2014 г.** Учора раптоўна не стала Барадуліна… Патэлефанаваў Юліі Якаўлеўне, спытаў, ці хоча Генадзь Мікалаевіч напісаць развітальнае слова, каб Някляеў зачытаў яго падчас пахавання? І было чутно, як Бураўкін сказаў проста-такі не сваім, дужа цяжкім голасам: «Хачу». Дамовіліся, што ператэлефаную, але праз гадзіну Юлія Якаўлеўна сказала, што як ні спрабавалі нешта запісаць — нічога не выходзіць. Генадзь Мікалаевіч вельмі стаміўся і таму папрасіў зачытаць на пахаванні тое, што раней сказаў Радыё «Свабода» — там невялікае, але добрае яго слова. Так я і паступіў: раздрукаваў тое яго слова, якое Някляеў зачытаў падчас развітання ва Ушачах, каля дома дзядзькі Рыгора.

…Зрэшты, пра Барадуліна мы ўсё ж пагаварым з Генадзем Мікалаевічам, калі ён, адчуваючы, што засталіся ўжо лічаныя дні, пакліча мяне, каб прадыктаваць апошнія свае ўспаміны, якія ён так і сабраўся запісаць. І пачнём нашу гутарку з размовы пра Барадуліна, хоць Генадзь Мікалаевіч і скажа: «Гэты боль яшчэ вельмі блізкі…»

**Фота Сяргея Шапрана**

Наталля ГАРДЗІЕНКА

# «Дык прачніся, народ, ад нядолі!»

**У эміграцыйных зборах побач з унікальнымі дакументамі часам можна знайсці і рэдкія выданні. Ксеракопія аднаго з іх, школьнага часопіса «Покліч», была перададзеная нядаўна ў Беларускі інстытут літаратуры і мастацтва разам з іншымі паперамі Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.**

Часопіс «Покліч» Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Наваградку выдаваўся ў 1943 годзе. У даведніку С. Жумара згадваецца адзіная яго ксеракопія, што захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Цяпер ёсць і другая.

Паколькі пра арыгінал звестак не сустракаецца, наяўныя копіі маюць надзвычай вялікае значэнне. Падобна, што гэта адзіны часопіс, што выдаваўся менавіта беларускай навучальнай установай у часы акупацыі. Таму мае сэнс прыглядзецца да яго больш уважліва.

Звестак пра Беларускую настаўніцкую семінарыю, што дзейнічала ў Наваградку ў 1942–1944 гадах, у літаратуры зусім няшмат. Найбольш інфармацыі пра выкладчыкаў і адукацыйны працэс можна знайсці ва ўспамінах яе некаторых выкладчыкаў і вучняў: Барыса Рагулі, Паўла Навары, Льва Стагановіча.

Сярод выкладчыкаў Беларускай настаўніцкай семінарыі былі: пісьменнік Аляксей Анішчык (Андрэй Чэмер), педагог, выпускніца Карлава ўніверсітэта ў Празе Наталля Орса, пісьменніца Іна Рытар-Каханоўская (Аляксандра Саковіч), грамадскі дзеяч Філарэт Родзька, вайсковы ды грамадскі дзеяч Барыс Рагуля. Частка з іх пасля вайны апынуліся на эміграцыі, іншыя, як Аляксей Анішчык ці дырэктар семінарыі Пётра Скрабец, прайшлі праз лагеры за сваю працу ў гады акупацыі.

Пра выданне ўласнага школьнага часопіса ва ўспамінах вучняў не згадваецца. Праўда, Павал Навара пісаў: «У сэмінарыі была насьценная газэта і рэдактарам яе быў Алесь Лойка, які выказваў вялікія здольнасьці, як пісьменьнік. Пісаў часта вершы ў газэты мой добры сябра Саўка Янка з-пад Ліды...»

Хто быў рэдактарам часопіса «Покліч» невядома. У самім выданні гэта не пазначана, як і яго наклад. Невядома таксама, выйшаў толькі адзін нумар ці былі і іншыя. У нашым распараджэнні ксеракопія нумара першага на 24 старонках за верасень 1943-га.

На першай старонцы часопіса ўверсе зробленая шыльда «Покліч. Школьны часапіс Настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку. № 1. Верасень. 1943 г.». Ніжэй ідзе невялікі тэкст «Ад рэдакцыі» падпісаны «Дырэкцыя сэмінарыі». У артыкуле пазначаецца, што «Покліч» стаў вынікам дзейнасці літаратурнага гуртка семінарыі: «Родная школа абудзіла юнацкія душы і накіравала моладзь да родных духовых вартасьцяў свайго народу. Сярод вучняў сэмінарыі выявіліся маладыя мастакі паэтычнага і празаічнага слова, мажліва, будучыя волаты мастацкай творчасьці. Сэмінарыя і выпускае гэты часапіс, как у першую чаргу даць магчымасьць моладзі друкаваць свае творы і гэтым прычыніцца да тварэньня беларускай культуры».

Больш пашыранае «Уступнае слова» належыць нямецкаму акруговаму камісару Вільгельму Траубу. У часопісе яно падаецца ў беларускім перакладзе, аўтар якога не пазначаны. Працяглы, больш як на 2 старонкі тэкст з'яўляецца выразнай адзнакай часу. Рыторыка змагання беларусаў на незалежнасць тут наўпрост суседнічае з антысеміцкай прапагандай, выстаўляючы габрэяў галоўнымі беларускімі ворагамі. Праўда, гэта фактычна адзіны такога кшталту матэрыял у часопісе. Хоць згадка вызвольнай ролі немцаў ёсць і ў невялікім непадпісаным звароце «Да моладзі», антысеміцкая тэма нідзе больш не прысутнічае. Сама ж цікавасць акруговага камісара да школьнага часопіса і наогул, як выглядае, да школьнай справы беларусаў вартая ўвагі даследчыкаў.

Асноўную частку зместу «Покліча» складаюць вершы, проза, публіцыстычныя тэксты як вучняў, гэтак і настаўнікаў.

Звяртаюць на сябе ўвагу шматлікія вершы моладзева-патрыятычнай, змагарнай скіраванасці, што адпавядаюць назве часопіса. Прыкладам, верш вучаніцы першага курсу Тамары Гладкай «Сьмела да мэты», які заканчваецца:

*«Дык прачніся, народ, ад нядолі!*
*Узьнімі свой адважна штандар,*
*Хай хвалюецца сьмела на волі*
*I распаліць у сэрцы пажар!»*

У сувязі з гэтымі вершамі варта згадаць рэфлексію Юрыя Туронка адносна таго, што тры гады беларускага школьніцтва ў часе нямецкай акупацыі зрабілі надзвычай шмат для развіцця нацыянальнай свядомасці моладзі. Змест часопісу «Покліч» гэта выразна пацвярджае.

Асобна ў паэтычным плане варта вылучаюць дэбютныя творы Галіны Бузук, апублікаваныя ў часопісе семінарыі. Сярод іх ёсць і палымяныя патрыятычныя:

**Прыйдзе час**

*Прыйдзе час, і Край паўстане,*
*Славай новай заблішчыць,*
*I на прадзедаў кургане*
*Песьня волі загучыць!*
*Прыйдзе час, і зарунее*
*Перад намі ясны шлях*
*I высока, горда ўзьвее*
*Бел-чырвона-белы сьцяг!*
*А за сьцягам — Крыўі дзеці*
*Стануць дружна ў рады*
*Пранясецца па ўсім сьвеце*
*Гымн прысягі маладых!*

Аўтарка — тая самая ўдзельніца Кіраўнічага штабу СБМ, пра якую Аляксей Анішчык пісаў у лісце да Юрыя Туронка: «Сваю вучаніцу Галіну Бузук я добра памятаю. Гэта была шустрая, вельмі актыўная патрыётка, знешне зграбная, вышэй сярэдняга росту дзяўчына. Была здольнай і таленавітай вучаніцай, добрым арганізатарам у СБМ, з выразнай перспектывай ісці па слядах Наталлі Арсеневай, а можа, і далей». На жаль, лёс арыштаванай пазней савецкімі ўладамі таленавітай вучаніцы настаўніцкай семінарыі невядомы. Зрэшты, як і лёсы большасці іншых аўтараў-навучэнцаў.




У адрозненне ад вучняў, настаўнік, чые тэксты друкаваліся ў «Поклічы» і які, магчыма, меў дачыненне да выдання ўсяго часопіса, Аляксей Анішчык (Андрэй Чэмер) стаў вядомай асобай. Сярод іншага, ён напісаў кнігу, прысвечаную даваеннай Наваградскай беларускай гімназіі. Настаўніцкая ж семінарыя часоў вайны, на жаль, засталася пераважна па-за яго ўспамінамі. Між тым, пэўная ўзаемасувязь ці пераемнасць дзвюх беларускіх навучальных установаў праглядалася і ў тым, што семінарыя размяшчалася ў будынку, які некалі будаваўся для гімназіі, і ў тым, што ў семінарыі працавалі некаторыя ранейшыя настаўнікі, як, прыкладам, Наталля Орса або дырэктар Пётра Скрабец, і былыя вучні Наваградскай беларускай гімназіі (прыкладам, сам Аляксей Анішчык, Барыс Рагуля і некаторыя іншыя). Нездарма на старонках «Покліча» ёсць колькі матэрыялаў, прысвечаных ранейшай гімназіі, напісаных з пазіцыі яе вучня: «Зачараванае кола (Успаміны з жыцьця Наваградзкае Беларускае гімназіі)» ды «Памяці Дырэктара Я. Цеханоўскага».

Бадай, найбольш карысны ў інфармацыйным плане тэкст у «Поклічы» — «Хроніка». Пры адсутнасці звестак пра Наваградскую настаўніцкую семінарыю, прыведзены тут храналагічны аповед пра падзеі з жыцця навучальнай установы ёсць надзвычай каштоўнай гістарычнай крыніцай. Тут ёсць паведамленне пра ўрачыстае адкрыццё Настаўніцкай семінарыі ў Наваградку 19 студзеня 1943-га ў залі Беларускага Народнага Дому з удзелам акругавога школьнага інспектара Аляксандра Орсы ды акругавога камісара Вільгельма Трауба, вучняў і настаўнікаў. Далей ідуць кароткія зацемкі пра сяброўскія вечары, «красамоўныя» конкурсы, спартовыя спаборніцтвы, святкаванні 25 сакавіка, 1 мая, канцэрты, матуральныя экзамены, выставу.

Паводле хронікі вынікае, што розныя мерапрыемствы ладзіліся ў семінарыі штотыдня. Усе апісаныя ў раздзеле падзеі ўкладаюцца ў прамежак студзеня—ліпеня 1943 года і адлюстроўваюць змест сапраўды даволі актыўнай і разнастайнай культурна-асветнай дзейнасці навучальнай установы. Навучэнцы атрымоўвалі выразны імпульс для творчага і фізічнага самаўдасканалення, і моцную прышчэпку патрыятызму.

Згодна з успамінамі Паўла Навары, у 1943 годзе навучэнцы семінарыі актыўна далучыліся да шэрагаў СБМ, шмат хлопцаў пайшлі ў афіцэрскую школу БКА. Некаторыя пазней апынуліся на эміграцыі: Павал Навара і Сільвестр Будкевіч — у Вялікабрытаніі, Леў Стагановіч, Галіна Родзька-Русак — у ЗША, Міхась Бурнос і Кастусь Сіткоўскі — у Аўстраліі. Таксама на чужыну выехалі і настаўнікі Іна Рытар, Наталля Орса, Барыс Рагуля, Філарэт Родзька. Менавіта нехта з тых, хто выехаў на Захад, і захаваў у сямейным архіве часопіс «Покліч», копія якога была перададзеная ў нью-ёркскі Беларускі інстытут навукі і мастацтва і пазней трапіла ў Мінск. Дзякуючы гэтаму выданню сёння можна аднаўляць асобныя цікавыя старонкі гісторыі друку і адукацыі ў Беларусі ў часы нямецкай акупацыі, а таксама дадаваць дэталі да біяграфіяў некаторых дзеячаў.

**Загалоўкі матэрыялаў часопіса «Покліч»:**

- Дырэкцыя сэмінарыі. Ад рэдакцыі (С. 1)
- Акруговы камісар Трауб. Уступнае слова (С. 1–3)
- Да моладзі (С. 3)
- Уладзімер Лойка, вучань 2-гой клясы. Змагаром за волю [верш] (С. 4)
- Гладкая Тамара, вуч. 1 кл. Мой край [верш] (С. 4)
- Куліцкая Ірэна, вуч. 1 кл. Наваградзкае замчышча [верш] (С. 4)
- Кужалевіч Зося, вуч. 1 кл. За справу і волю [тэкст выступу на конкурсе красамоўства] (С. 5)
- Гаўрош Мар'я, вуч. 1 кл. У еднасьці сіла [тэкст выступу на конкурсе красамоўства] (С. 5)
- Лойко Ул., вуч. II кл. Жаўрана [верш] (С. 5)
- Лойка Уладзімер, II кл. За гутарку родную [верш] (С. 6)
- Бузук Галіна, матур. курс. Прыйдзе час; Сон; Некаму; Мне сумна [вершы] (С. 6–7)
- Макарэвіч Ірэна, вуч. 1 кл. Летняя ноч [верш] (С. 7)
- Градкая Т., вуч. 1 кл. Вясна [верш] (С. 7)
- Віркоўская Аля, вуч. 1 клясы. Малы Юрка [апавяданне] (С. 7)
- Гладкая Т., вуч. 1 кл. Сьмела да мэты [верш] (С. 8)
- Гаўрош Мар'я, вуч. 1 кл. Да Нёмна [верш] (С. 8)
- Андрэй Чэмер. Доктар Брага (Апавяданьне) (С. 8—10)
- Францішак Багушэвіч на шляху беларускай літаратуры (рэфэрат, які быў чытаны на акадэміі ў сэмінарыі) (С. 10–11)
- А. Валюсік. Памяці Дырэктара Я. Цеханоўскага (С. 12)
- А. Чэмер. Над Нёмнам (навэлька) (С. 13)
- Грос Глафіра, вуч. 1 кл. На наваградзкіх гонях [нарыс] (С. 13–14)
- А. Валюсік. Зачараванае кола (Успаміны з жыцьця Наваградзкае Беларускае гімназіі) (С. 14–15)
- С. Гарбацэвіч. Аб забабонах (С. 15–16)
- А. Анішчык — Настаўнік Сэмінарыі. Як пісаць (С. 16–17)
- А. Чэмер. Тварцы культуры (С. 18)
- Сахрон Хламук піша... (Фэльетон) (С. 18–19)
- Хроніка (С. 19–23)
- Куток гумару і разрывак (С. 24)

# Адпачынак на Радзіме:
## кансультацыя непрафесіянала. Частка 1

Аляксандр ВАРЛАМАЎ

**Ніколі б не адважыўся сцвярджаць, быццам разбіраюся ў курортах. Тым больш, пісаць пра адпачынак, быццам аб'ехаў іх усё, усюды пабыў і маю магчымасць параўноўваць, — не маю права, таму што тое, што добра для мяне — другому катарга. Адпачынак — тэма настолькі індывідуальная, можна нават сказаць, інтымная, што ўсялякія абагульненні і аб'ектыўныя высновы ў дадзеным выпадку папросту немагчымыя.**


Фота Мікіты Фядосіка

**Мясцовыя раманы не заканчваюцца ніколі, і доўжацца потым да канца сумеснага жыцця**

Што загадаеце рабіць у сітуацыі, калі, з аднаго боку, тэма ўнікальная сваёй запатрабаванасцю, а з іншага — не хочацца спяваць дыфірамбы таму, чаго няма, або лаяць усё запар.

Так здарылася, што вось ужо больш за дзесяць гадоў я маю магчымасць хоць некалькі тыдняў у годзе праводзіць у самым дабраславёным кутку краіны, дзе мне было наканавана нарадзіцца. Размешчана гэта месца амаль на самай мяжы з Еўрасаюзам (прыблізна ў 20 кіламетрах — Літва, у 40 — Латвія), займае тэрыторыю аднаго раёна, тут няма чыгуначных зносін ні з якім іншым месцам на зямлі, калісьці, гадоў дваццаць таму, у гэтым населеным пункце было ўсяго тры з паловай вуліцы...

Гэта Браслаў. І калі паглядзець на мапы IX–XII стагоддзяў, то тут была размешчана драўляная крэпасць, з усіх бакоў абкружаная адным бязмежным суцэльным возерам. Толькі на лодках — па вадзе — можна было дабрацца сюды...

Дзесьці ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя мне давялося правесці ў гэтым мястэчку і яго наваколлях тры сонечныя вераснёўскія дні, калі, разам са сваімі калегамі па фальклорнай экспедыцыі, мы начавалі ў мясцовым малюсенькім гатэльчыку (з прыбіральняй на двары), каб кожную раніцу выпраўляцца на сустрэчу з бабулькамі — жыхаркамі мясцовых вёсачак і запісваць інфармацыю, якая цяпер стала ўжо бясцэннай, пра традыцыйную культуру старажытнага рэгіёну.

Тады мне цяжка было нават уявіць сабе, што пройдзе час — і я ўжо буду запісваць не гісторыі пра мясцовыя звычаі і абрады, а ўласныя ўражанні ад таго, што па нейкіх неверагодных прычынах ацалела ў барацьбе з немінучым надыходам урбаністычных стандарту і бюракратыі, непазбежнымі спадарожнікамі развіцця чалавецтва.


Фота www.gettyimages.com

Нягледзячы на тое, што для большасці аматараў віртуальнага свету Браслаў сёння выглядае крыху несучасна, менавіта гэта і робіць яго такім утульным, хатнім, і, можна нават сказаць, настальгічным...

У абарону прыхільнікаў рэальнага свету дадам, што калі маеш намер жыць і радавацца жыццю, то Браслаў і яго наваколлі — менавіта тое самае месца, дзе гэтае жаданне ўжо больш не ўявіцца сумнеўным.

Тут сутыкаешся душой і з цнатліва-чыстым паветрам, і з адлюстраваннямі захадаў у бясконцых азёрных роўнядзях, і з неверагоднымі па прыгажосці дажджавымі аблокамі, і са стрыманай разнастайнасцю раслінаў і насельнікаў падводнага свету, і раптам, нечакана, чапляй, якая з'явілася з трысняговых зараснікаў, і з абветранымі і абмытымі дажджамі драўлянымі кладкамі, што вядуць ад берагавой лініі да глыбіні, і мясцовымі жыхарамі з вачыма, поўнымі праменьчыкаў колеру сонца, неба, азёрнай сіні і лясной зеляніны разам...

Не так даўно (у мясцовых жыхароў пра гэта яшчэ захоўваюцца ўспаміны) у гэтыя месцы прыязджалі на адпачынак у асноўным «дачнікі з Піцера». «Дачнікі» — таму што курортам гэтыя месцы не называлі, не варта называць іх так і цяпер.

Паняцце «курорт» — гэта нейкае месца, дзе загараюць у шэзлонгах ля басейнаў, падаюць кактэйлі з мудрагелістымі назвамі, дзе на набярэжных ці гарадскіх плошчах штовечар адбываюцца дэфіле модных паняў у вытанчаных уборах, што распаўсюджваюць вакол сябе найтонкія і пяшчотныя водары дарагой парфумы, і дзе да пяцізоркавых гатэляў цягнецца бясконцы шэраг таксі, з цырульнікамі і візажыстамі да паслуг VIP-кліентаў.

Пра тое, хто і як бавіць час на курортах, знятая неймаверная колькасць дэтэктыўных кінастужак і напісаны не адзін літаратурны шэдэўр.

Але гэта ўсё — не пра адпачынак у Браславе. Гэта не пра Браслаў. І, дзякуй Богу, што ёсць на зямлі месца, як тое, дзе я пішу гэтыя радкі.

Дарэчы, і ў Браславе таксама здараюцца летнія раманы. Праўда, яны праходзяць не так бурна, як у іншых месцах, але і гэта вытлумачальна, бо людзі прыязджаюць сюды не за пошукам прыгод, а за самымі вытанчанымі асаладамі, якія толькі можна атрымаць ад блізкасці з самім жыццём.

Падобнае прыцягвае падобнае, і мясцовыя летнія раманы, часцей за ўсё, проста не заканчваюцца ніколі, і доўжацца-доўжацца потым да канца цяпер ужо сумеснага жыцця.

Зараз, калі чарговы дзень ужо падышоў да свайго завяршэння, і на азёрнай роўнядзі, што бачная з акна пакоя, адлюстроўваецца толькі начное неба, хочацца як мага хутчэй закрыць вечка ноўтбука і выйсці на заснулую вуліцу, дзе без усялякага абмежавання і аглядкі можна бясконца любавацца немудрагелістымі драўлянымі і цаглянымі домікамі, акружанымі пладовымі дрэвамі і амаль што галандскімі кветнікамі, якія ахоўваюць былую даўніну, што захавалася ў сваім натуральным парадку рэчаў.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня
Всего
Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 879

Падпісана да друку 09.09.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.